Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 20 (4769) 23 мая 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў і гасцей XXIII Міжнароднага кінафоруму «Залаты Віцязь» у Томску з адкрыццём мерапрыемства. Фэст «нязменна збірае выдатных майстроў кіно, чыя творчасць спрыяе сцвярджэнню ў сучасным грамадстве сапраўдных маральных і эстэтычных каштоўнасцей, умацаванню славянскага адзінства, развіццю сяброўства і супрацоўніцтва паміж усімі народамі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Паводле Указа Прэзідэнта Беларусі створана Дзяржаўная камісія па кантролі за падрыхтоўкай і правядзеннем уступных іспытаў у ВНУ і ССНУ ў 2014 годзе. У склад камісіі ўключаны члены Савета Рэспублікі і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу краіны, кіраўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і работнікі кантралюючых органаў. Камісія мусіць забяспечыць абітурыентам роўныя магчымасці пры паступленні.

✔ XX Міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні на тэму «Хрысціянства ў еўрапейскай і сусветнай гісторыі» праходзяць гэтымі днямі ў Інстытуце тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірылы Белдзяржуніверсітэта. У мерапрыемстве бярэ ўдзел больш як 250 вядучых багасловаў, філосафаў, культуролагаў, гісторыкаў, філолагаў і педагогаў з Беларусі, Германіі, Расіі, Азербайджана, Турцыі, Украіны.

✔ Нацыянальны беларускі павільён створаны на 67-м Канскім міжнародным кінафестывалі намаганнямі Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Пасольства нашай краіны ў Францыі. Асобная ўвага нададзена прэзентацыі вытворча-тэхнічнай базы кінастудыі «Беларусьфільм» з улікам хуткага завяршэння яе комплекснай рэканструкцыі і магчымасці супрацоўніцтва па сумеснай кінавытворчасці.

✔ У Беларусі праходзіць Міжнародны тыдзень мастацкай адукацыі, аб'яўлены ЮНЕСКА ў 2012 годзе. У праекце бяруць удзел вядучыя творчыя ВНУ краіны, Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў, галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама. Прапануюцца выстаўкі, канцэрты, майстар-класы, тэматычныя сустрэчы, практычныя семінары.

✔ 14 — 16 мая ў Ашхабадзе адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 290-годдзю паэта і мысляра, «Махтумкулі Фрагі і агульначалавечыя каштоўнасці». У сустрэчы ўзялі ўдзел прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі з больш як 50 краін свету, у тым ліку пісьменнікі Ганад Чарказян і Казімір Камейша. Іх праца па прадстаўленні класіка туркменскай літаратуры беларускаму народу была адзначана ганаровым медалём Махтумкулі з рук Прэзідэнта Туркменістана.

✔ Літаратурны музей Максіма Багдановіча 26 мая а 18-й гадзіне запрашае на імпрэзу «Першая кніга паэта», прымеркаваную да Дня памяці Максіма Багдановіча. У вечарыне возьмуць удзел вядомыя беларускія літаратары, якія распавядуць пра свае першыя кнігі.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**

















*Фота Кастуся Дробава*




*Чынгіз Аліаглы, Эдвард Мілітанян і Валерый Рагалевіч знаёмяцца з конкурснымі выданнямі.*

# Эксперымент? Класіка!

## ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ XI МІЖНАРОДНАГА КОНКУРСУ «МАСТАЦТВА КНІГІ» ДЗЯРЖАЎ-УДЗЕЛЬНІЦ СНД

Заканчэнне вясны і пачатак лета — хвалюючы перыяд для выдаўцоў з усіх краін СНД. Бо менавіта ў гэты час традыцыйна праходзіць пасяджэнне журы Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД. Вось і сёлета ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі сабраліся сябры ганаровага журы — пісьменнікі, выдаўцы, сапраўдныя «аксакалы» галіны, якія за гады сумеснай працы сталі добрымі сябрамі. На іх суд было прадстаўлена 77 выданняў павышанай якасці з 9 краін СНД: Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Казахстана, Малдовы, Расіі, Таджыкістана, Туркменістана, Украіны.

Міжнароднае журы конкурсу разглядала кнігі па дзевяці намінацыях: «Садружнасць», «Мая краіна», «Кніга для дзяцей і юнацтва», «Дыялог культур», «Навука і адукацыя», «Арт-кніга», «Аддрукавана ў садружнасці», «Перамога», «Гран-пры». Дарэчы, сёлета конкурс упершыню праходзіў у адпаведнасці з новым палажэннем. Так, калі раней краіна магла прадставіць да 5 кніг у кожнай з намінацый, то цяпер колькасць конкурсных выданняў ад адной дзяржавы зменшылася да двух. З аднаго боку, змяншэнне ліку разглядаемых выдавецкіх праектаў ускладніла задачу адбору кніг на ўзроўні краіны, але з іншага — спрасціла працу журы: зараз суддзі змаглі больш увагі і часу прысвяціць разгляду кожнага з конкурсных праектаў, ацаніць іх тэматыку, дызайн, мастацкую структуру, іншыя станоўчыя якасці.

У міжнародным журы былі прадстаўнікі пяці краін СНД: Чынгіз Аліаглы, загадчык выдавецкага сектара Міністэрства культуры і турызму Азербайджана, паэт; Эдвард Мілітанян, дырэктар Агенцтва па выдавецкай справе Міністэрства культуры Арменіі, старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі; Аляксандр Варапаеў, начальнік аддзела кніжных выставак і прапаганды чытання Упраўлення перыядычнага друку, кнігавыдання і паліграфіі Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расіі; Джура Шарыфаў, дырэктар выдавецкага прадпрыемства «Ірфон» (Таджыкістан). Беларусь прадстаўлялі тры чальцы: Міхаіл Баразна, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства; Валерый Рагалевіч, кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь; Дзмітрый Макараў, генеральны дырэктар кампаніі «Макбел». У адпаведнасці з умовамі конкурсу падчас галасавання адна краіна мае права аддаць толькі адзін голас.

Заканчэнне чытайце на стар. 9 ▶

# Блаславёны мецэнат



Фота з сайта catholic.by

Роля царквы ў жыцці грамадства неаднаразова падкрэслівалася на самым высокім узроўні, у тым ліку і Кіраўніком дзяржавы. У нашай краіне разумеюць важнасць прапаганды духоўных каштоўнасцей: узорамі для моладзі мусяць быць не «барадатыя жанчыны», а выбітныя асобы айчыннай гісторыі. Адзін з іх — фундатар Чырвонага касцёла, святыні, якая стала візітнай карткай беларускай сталіцы і, нягледзячы на складаныя гістарычныя варункі, захавалася да нашага часу. Днямі ў Мінску адбылося першае пасяджэнне пастулатарскай камісіі ў справе беатыфікацыі Эдварда Вайніловіча, імя якога ўвайшло ў гісторыю Беларусі, Расіі і Польшчы. Цяжка знайсці ў летапісе чалавецтва асобу, якая б спрыяла будоўлям храмаў самых розных веравызнанняў: праваслаўных цэркваў і касцёлаў каталіцкіх, сінагог і мячэцяў. Ён меркаваў: «Няхай веруючыя людзі розных канфесій, кожны ў сваёй святыні на зямлі, славяць аднаго Бога на небе». Акрамя таго, Эдвард Вайніловіч падтрымліваў першае беларускае легальнае выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца», часопісы «Лучынка» і «Саха», а таксама выдавецтва «Саха». Прэм'ер Сталыпін нават прапаноўваў нашаму суайчынніку пасаду міністра сельскай гаспадаркі ў Расійскай імперыі.

На пасяджэнні прысутнічалі прадстаўнікі Апостальскай Сталіцы з Кангрэгацыі па справах Кананізацыі, рэферэнт па Кананізацыйных справах Кракаўскай архідыяцэзіі, гісторыкі з Беларусі і Вільні, святары, прадстаўнікі навукі і СМІ. Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці накіраваў удзельнікам сустрэчы свае шчырае прывітанне.

Падчас абмеркавання прысутныя слушна заўважылі, што за духоўнае жыццё грамадства сёння павінны адказваць не толькі святары, але і асобы свецкія. А Эдвард Вайніловіч можа служыць сапраўдным узорам патрыёта, выбітнага грамадскага і культурнага дзеяча, які нашмат апярэдзіў свой час. Як падкрэсліў у сваім выступленні член камісіі, доктар гістарычных навук, прафесар Адам Мальдзіс, Э. Вайніловіч быў чалавекам талерантным і змагаўся за роўнасць усіх рэлігій і нацый, у яго асобе спалучаліся рэфарматарства і глыбокая рэлігійнасць. «З мясцовай шляхтай ён гаварыў па-польску, у Піцеры — па-руску, а з сялянамі — па-беларуску», — адзначыў А. Мальдзіс. Пераклад на беларускую мову і выданне спадчыны Э. Вайніловіча прафесар бачыць сваім абавязкам. Дарэчы, спадар Мальдзіс перадаў некалькі каштоўных кніг з уласнай кніжніцы ў бібліятэку імя Адама Міцкевіча пры Чырвоным касцёле, каб стварыць тут асобны фонд «Мінскі край часоў Эдварда Вайніловіча», а таксама прапанаваў заснаваць выдавецкую серыю і зрабіць сайт, які паспрыяў бы збіранню новых звестак.

Пра тое, што здзейснена цягам апошніх васьмі гадоў дзеля захавання памяці і пошуку інфармацыі пра нашага слыннага грамадскага дзеяча і чалавека, распавёў пробашч касцёла Св. Сымона і св. Алены кандыдат гістарычных навук ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. «Мы сустрэліся з вялікай павагай і ўвагай людзей да гэтай постаці», — адзначыў айцец Уладзіслаў.

Адметнасцю беатыфікацыі Эдварда Вайніловіча яшчэ і ў тым, што гэта адбываецца ўпершыню — на нашай зямлі і датычыць нашага суайчынніка. Сам працэс будзе лічыцца распачатым толькі пасля афіцыйнага дазволу Ватыкана, а для гэтага давядзецца папрацаваць не толькі святарам, але і гісторыкам, якія будуць вывучаць пісьмовыя крыніцы і праводзіць ацэнку дакументаў, каб засведчыць і справы Вайніловіча, і тэзы, паводле якіх ён жыў. «Гэты працэс вельмі важны для нашай краіны», — падкрэсліў Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.

Да слова, падчас сустрэчы прысутным быў прадэманстраваны мастацкі фільм «Стагоддзе з бясконцым працягам», прысвечаны асобе і дзейнасці Э. Вайніловіча. На экране сярод іншых прамаўляў і Павел Мілюк — чалавек, які асабіста сустракаўся з мецэнатам. На жаль, некалькі гадоў таму ён пайшоў з жыцця, але дзякуючы кінарэжысёру Уладзіміру Арлову яго неацэннае сведчанне таксама паслужыць таму, каб праз пэўны час беларусы маглі мець свайго «слугу Божага».

У тастаменце ён пісаў: «Нішто чалавечае не было мне чужым: я не ўмеў абыякава глядзець на тое, што адбывалася вакол мяне, стараўся быць карысным грамадству паводле сваіх сіл і здольнасцей…»

Хацелася б, каб справа беатыфікацыі Эдварда Вайніловіча аб'яднала ўсіх прадстаўнікоў беларускай культуры і паспрыяла пашырэнню ведаў пра нашу краіну ў свеце.

**Таццяна СІВЕЦ**

*Конкурсы*

# Гісторыя з-пад юнага пяра

Днямі ў мемарыяльнай зале сталічнага Дома літаратара ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося ўзнагароджанне пераможцаў рэспубліканскага конкурсу творчых работ вучняў, прысвечанага 70-годдзю з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.


Фота Кастуся Дробава

*Анатоль Сульянаў уручае дыплом I ступені ўдзельніцы літаратурнай гасцёўні «На Парнасе» вілейскай гімназіі № 2 Кацярыне Місюль.*

На гэты конкурс, аб'яўлены ў мінулым годзе Саюзам пісьменнікаў Беларусі сумесна з рэдакцыяй часопіса «Роднае слова», цягам года дасылалі свае работы вучні і настаўнікі з усіх рэгіёнаў краіны. Іх творчасць ацэньвала журы на чале з галоўным рэдактарам «Роднага слова» Зояй Падліпскай.

Лаўрэатаў конкурсу павіншавалі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, доктар філалагічных навук прафесар Іван Саверчанка, старшыня ваенна-шэфскай камісіі СПБ і Міністэрства абароны, кіраўнік студыі ваенных пісьменнікаў Яўген Каршукоў і пісьменнік, генерал-маёр авіяцыі Анатоль Сульянаў.

Што да прадстаўленых на конкурс матэрыялаў, то яны былі размеркаваны па намінацыях: «Люблю цябе, Белая Русь», «Мае родзічы — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны» і «Да 70-годдзя з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Падводзячы вынікі творчага спаборніцтва, З. Падліпская звярнула асаблівую ўвагу на неабыякавасць маладога пакалення да сваёй мінуўшчыны, да памяці продкаў, шчыра падзякавала настаўнікам за годную падрыхтоўку сваіх вучняў.

Дыпломы I ступені атрымалі: Кацярына Дзерачэнік, Алена Агурцова, Ларыса Шпак (СШ № 1 г. Скідзеля Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці, работа «Вянок санетаў», кіраўнік — Марыя Лісай); Дзіяна Румянцава (Баравухская СШ № 15 г. Наваполацка Віцебскай вобласці, работа «Лёс маёй сям'і ў гады Вялікай Айчыннай вайны», кіраўнік — Святлана Румянцава); Андрэй Гірнік (СШ № 13 г. Жлобіна Гомельскай вобласці, зборнік «Жменька ўспамінаў пра вайну», кіраўнік — Таццяна Гірнік); Зоя Міхальцова (СШ № 15 г. Магілёва, работа «Сэнс жыцця чалавека», кіраўнік — Святлана Наважылава); Дзмітрый Дзербянёў, Ганна Башнева, Андрэй Гірнік, Ганна Ядчанка (СШ № 13 г. Жлобіна Гомельскай вобласці, творчы праект «Радок, апалены вайной… Спецвыпускі школьнай газеты», кіраўнік — Таццяна Гірнік); удзельнікі літаратурнай гасцёўні «На Парнасе» (вілейская гімназія № 2 Мінскай вобласці, дакументальна-мастацкі зборнік «Была вайна», кіраўнік — Віктар Кажура). Дарэчы, работа Дзіяны Румянцавай будзе надрукавана ў часопісе «Роднае слова».

Дыпломамі II ступені ўганараваны: Соф'я Сінкавец (СШ № 1 г. Івацэвічы Брэсцкай вобласці, работа «Легенды Івацэвіччыны», кіраўнік — Вольга Дайлід); Анастасія Ракашэвіч (Асіповіцкая дзяржаўная спецыяльная агульнаадукацыйная школа-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі функцый апорна-рухальнага апарата, паэтычная работа «Ты, Беларусь, мая Радзіма! І лепей за цябе няма!», кіраўнік — Ірына Барташ); Міхаіл Міскевіч (СШ № 1 г. Івацэвічы Брэсцкай вобласці, работа «Баявы шлях майго дзядулі — Міскевіча Міхаіла Васільевіча», кіраўнік — Вольга Дайлід); Артур Антановіч (Ліцэй г. Лунінца Брэсцкай вобласці, работа «Па старонках кнігі жыцця майго прадзеда Аляксандра Іванавіча Савіча», кіраўнік — Валянціна Казун); Ірына Гулькова (Палужскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад — сярэдняя школа Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці, работа-эсэ «Судьба человека», кіраўнік — Іна Сяменава).

Дыпломамі III ступені ўзнагароджаны: Павел Бушкоў і Таццяна Мялешка (Ялізаўская СШ Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, нізка вершаў з мультымедыйным дадаткам «Люблю цябе, чыстая Белая Русь», кіраўнік — Галіна Быкава); Валерыя Скосарава (СШ № 1 г. Івацэвічы Брэсцкай вобласці, работа «Перамога маёй бабулі — Колтун Веры Генадзьеўны», кіраўнік — Вольга Дайлід); Ганна Кадзет (Дрычынскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад — сярэдняя школа імя С. М. Каданчыка Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, работа «Мае родзічы — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны», кіраўнік — Зоя Мельнік); Аляксей Анціховіч (СШ № 4 г. Асіповічы Магілёўскай вобласці, работа «Мае родзічы — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны», кіраўнік — Таццяна Кавалёва); Касандра Шахаб (гімназія № 23 з беларускай мовай навучання г. Мінска, работа «Цяжкія раны маёй зямлі», кіраўнік — Галіна Полудзень); Вольга Герасіменка (Гомельскі дзяржаўны педагагічны каледж імя Л. С. Выгоцкага, работа «Мае родзічы — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны», кіраўнік — Таццяна Пятроўская); Валерыя Бушкевіч (СШ № 10 г. Жлобіна Гомельскай вобласці, работа «Мае родзічы — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны», кіраўнік — Алена Давыдзенка).

Акрамя дыпломаў пераможцы конкурсу атрымалі грашовыя прэміі. Не засталіся ўбаку і настаўнікі: кожны з іх быў адзначаны дыпломам. Плённае супрацоўніцтва пісьменнікаў, педагогаў і вучняў абавязкова прадоўжыцца.

**Яна ЯВІЧ**

# Па мясцінах Дастаеўскага

Незабыўныя літаратурныя сустрэчы адбыліся нядаўна на Іванаўшчыне — у Дастоеўскай сярэдняй школе і санаторыі «Алеся». Сюды завіталі першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, пісьменнік Анатоль Зэкаў, літаратуразнаўца Іван Саверчанка, загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка. Госці пазнаёміліся з размешчаным у сценах Дастоеўскай СШ музеем класіка рускай і сусветнай літаратуры Фёдара Дастаеўскага.

Важкі ўнёсак у стварэнне і станаўленне музея зрабіў Анатоль Бурак, які да скону дзён быў яго анёламахоўнікам і распарадчыкам. Справу гэтага выбітнага чалавека, падзвіжніка і патрыёта, прадоўжылі калегі і духоўныя спадкаемцы. Выкладчык гісторыі Анатоль Свірыдчук, вучаніца 10-га класа Таццяна Ваўдзюк ды Людміла Бандарук правялі экскурсію для гасцей, а тыя падарылі гаспадарам кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў, распавялі пра дзейнасць Саюза пісьменнікаў Беларусі. А яшчэ падтрымалі ініцыятыву ўзнаўлення сядзібы продкаў вялікага творцы: гэты праект цяпер разглядаецца на самых высокіх узроўнях у Беларусі і Расіі.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# Між Гроднам і Калінінградам

У Гродзенскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылася сустрэча з Лідзіяй Давыдзенка з Калінінграда.

Лідзія Уладзіміраўна — член Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Расіі, кандыдат філасофскіх навук, выкладчык. Паходзіць яна з Беларусі, з Быхаўскага раёна. Скончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт. Стала жыве ў Калінінградзе, з'яўляецца галоўным рэдактарам новага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Берега». Выйшла ўжо тры нумары выдання.

Госця прадставіла гродзенскім чытачам калінінградскі часопіс, распавяла пра ўласную творчасць. Як у любым маладым выданні, яго стваральнікі шукаюць сваю літаратурную нішу, новыя тэмы і новых аўтараў. Рубрыкі «Паэзія», «Проза», «Маладыя аўтары», «Гісторыя і краязнаўства», «Пераклады», «Крытыка», «Публіцыстыка» пацвярджаюць прыхільнасць часопіса да класічнай традыцыі рускай школы.

Часопіс «Берега» арыентуецца на шырокае кола чытачоў і сямейнае чытанне. У планах — пашырэнне супрацоўніцтва з пісьменнікамі, публікацыя аўтараў з краін-суседак. Гродзенскія аўтары таксама могуць паспрабаваць свае сілы на старонках часопіса: адзіная ўмова — высокі ўзровень твораў.

Калінінградская пісьменніцкая арганізацыя штогод у кастрычніку праводзіць дні літаратуры, запрашае на гэтыя сустрэчы цікавых пісьменнікаў з Польшчы, Літвы, Украіны. Магчыма, сёлета атрымаюць запрашэнне ў Калінінград і гродзенскія пісьменнікі.

**Ірына ШАТЫРОНАК**

# Дарога пачынаецца ў Ракаве

110 год таму, 18 мая, у мястэчку Ракаў быў асвечаны фундамент касцёла Маці Божай Ружанцовай. Амаль шэсць тысяч чалавек (для параўнання, сёння ў Ракаве — каля 2 тысяч насельніцтва) прыйшло на цэнтральную плошчу, каб сабраць ахвяраванні і памаліцца за хуткую пабудову святыні. Малітва, відавочна, была пачутая, бо дзякуючы фундатарству мясцовай шляхты ды люду паспалітага мураваны касцёл быў узведзены (на прыклад сучасным даўгабудам!) усяго за два гады. На жаль, антырэлігійная навала не абмінула і Ракаў, але, нават зрабіўшы з касцёла зернясховішча і калгасныя майстэрні, бальшавікі не знішчылі веры ў душах ракаўчан.

Традыцыя духоўнай супольнасці жывая тут і сёння. Бо як інакш паспелі б практычна аднавіць святыню да яе чарговых угодкаў! Працавалі не толькі будаўнікі — свае рукі да вяртання велічы ракаўскага касцёла прыклала і мясцовае насельніцтва. Плёнам іх працы цешыліся госці, якія наведалі парафію 17 — 18 мая. Паводле іх сведчанняў, рамонт будынка касцёла гаворыць пра духоўную моц ракаўскіх вернікаў.

Гэта пацвердзіў і шырокі ўдзел моладзі ў святкаваннях. Канцэрт хрысціянскага моладзевага гурта «Адзіная ў Духу» з Баранавіч адбыўся ў суботу на плошчы перад касцёлам. Маладыя ракаўчане спявалі разам з удзельнікамі гурта, заўзята скакалі «бельгійку» ды іншыя танцы, самыя юныя фарсілі па-майстэрску размаляванымі тварамі (тут яка працавала імправізаваная «грымёрна»), «чараўнік» Павел паказваў фокусы і жартаваў з прысутнымі дзяўчатамі (якія былі без хлапцоў). З лавак уздоўж плошчы на карагод маладых ухвальна пазіралі людзі сталыя… Свята не сапсаваў нават абяцаны прагнозам надвор'я дождж — яго не было! — відаць, малітва ракаўчан зноў была пачутая. Таму ў чыстае неба над касцёлам узносіліся майскім надвячоркам і спевы, і шыкоўны феерверк.

А ў нядзелю канцэрт арганнай музыкі і выступленне Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі Беларусі Наталлі Міхайлавай дадалі святу ўрачыстасці. Выконваліся як кампазіцыі класікаў



(Баха, Гендэля, Грыга, Манюшкі), так і творы сучаснікаў (напрыклад, урывак з Нью-Ёркскай месы Яфрэма Падгайца, прысвечаны падзеям 11 верасня 2011 года). Уражаныя слухачы запрашалі калектыў не чакаць наступнага юбілею і завітаць у Ракаў пры першай нагодзе.

Пра духоўныя каштоўнасці, якія мусяць яднаць і ратаваць сучасны свет, нагадваў падчас сваёй прамовы Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. «Вашыя продкі збудавалі гэты касцёл, — звярнуўся Мітрапаліт да ракаўчан, — і ён сапраўды ваш, вашых дзяцей і ўнукаў, таму вы павінны клапаціцца пра тое, каб аблічча касцёла дапамагала ўзносіць малітвы да неба». Арцыпастыр выказаў падзяку ксяндзу-пробашчу парафіі Маці Божай Ружанцовай Дзмітрыю Барылу «за высілкі ў справе рамонта», а таксама шчыра падзякаваў усім парафіянам.

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Таццяна Хмель адзначыла, што сёння надзвычай важна захоўваць духоўныя каштоўнасці ў кожнай беларускай сям'і. Да шматлікіх віншаванняў далучыліся кіраўнікі рэгіёна, а таксама прысутныя на свяце прадстаўнікі іншых рэлігійных кірункаў. Асаблівых апладысментаў быў удастоены мецэнат Вячаслаў Доўнар, які ахвяраваў на рамонт касцёла больш як мільярд беларускіх рублёў і прызнаўся, што спыняцца ў сваёй добрай справе не збіраецца.

**Таццяна СІВЕЦ,**
**фота аўтара**

# Паэзія з водарам Кітая

У «Ноч музеяў» Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа наведаў кітайскі пісьменнік Лі Цзо з сям'ёй.

На пачатку імпрэзы з прывітальным словам выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Цуй Цы Мін, які падкрэсліў значнасць падобнага мерапрыемства як для Беларусі, так і для Кітая.

Атмасферу ўсходняй краіны можна было глыбей адчуць на майстар-класе па кітайскай каліграфіі, які правёў саветнік кітайскага пасольства Сун Хун Чжын. Спецыяльна для музея высокі госць перадаў у фонды сімвалічны запіс пра гэтую сустрэчу на кітайскай мове.

Запамінальным момантам стала кітайская чайная цырымонія, якую наладзіла выкладчыца кітайскай мовы гімназіі № 23 г. Мінска Ван Юй Хун. Гледачы змаглі не толькі паназіраць за працэсам прыгатавання гарбаты розных відаў, але і пакаштаваць яе. Суправаджалася цырымонія гукамі кітайскага інструмента гучэн, на якім іграла аспірантка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ван Шэн Цзэ.

Пасля цырымоніі пачалася сустрэча з паэтам Лі Цзо. Кітайскі аўтар зачараваў усіх прысутных



*Саветнік пасольства КНР у Беларусі Сун Хун Чжы.*

сваімі вершамі, якія чытаў на кітайскай і рускай мовах.

Пры канцы імпрэзы самыя цярплівыя яе ўдзельнікі пачулі пра адрозненне кітайскай і японскай чайных цырымоній з вуснаў унука Якуба Коласа Андрэя Данілавіча Міцкевіча.

Так у доме славутага беларускага пісьменніка за кубачкам гарбаты адбылося яднанне Усходу і Захаду, якое яшчэ раз нагадала: творчасць не мае геаграфічных межаў!

**Марына ВАЛАСАР,**
**фота аўтара**

# Вытрымка, яшчэ раз вытрымка

Выстаўку «Спорт у сям'і Міцкевічаў» прапануе Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Наведвальнікі могуць пераканацца, наколькі разнастайным, насычаным было жыццё класіка, заняткі і выхаванне яго дзяцей, унукаў і праўнукаў.

Мала хто ведае пра здольнасці волата беларускай паэзіі па-за пісьмовым сталом, пра аўтарытэт па-за грамадска-літаратурнымі справамі. Расказваюць, прыкладам, што ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Канстанцін Міцкевіч любіў «дужацца» з сябрамі-семінарыстамі: падымаў рукі, сціскаў кулакі, і з кожнага боку навешваліся па тры чалавекі. Але, як яны ні стараліся, не маглі разагнуць рукі маладога паэта.

Гэта, канечне, нагадвае міф, але наконт наступных звестак існуюць непадробныя сведчанні: фотаздымкі, ганаровыя граматы — іх і прадстаўляе выстаўка. Паэт быў выдатным стралком: у час Першай сусветнай — лепшым у сваёй роце па стральбе з нагана, добра страляў з малакаліберпнай вінтоўкі. Вельмі любіў гуляць у шахматы са сваім сябрам Янкам Купалам. Улюбёным заняткам Якуба Коласа было «ціхае паляванне»: ён добра ведаў, дзе і калі з'яўляюцца тыя ці іншыя грыбы, і вельмі неабыякава ставіўся да баравікоў.

Здольнасці бацькі ў стральбе перадаліся яго сынам — Міхасю і Юрку. Юрый Міцкевіч дасягнуў поспехаў у стэндавай стральбе, а яшчэ выдатна плаваў. Міхаіл Канстанцінавіч мае нарматыў па стральбе I разраду, ён удзельнік мноства рэспубліканскіх спаборніцтваў. «Што спорт дае ў жыцці? — разважае сын паэта. — Вытрымку. Выхоўвае здольнасць трымаць сябе ў руках, стрымліваць хваляванне».

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Вершы вандруюць ноччу

Акцыя «З нас кожны з тайнаю сваёй» адбылася ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі ў межах «Ночы музеяў». Ва ўтульнай творчай атмасферы, дзе жыў і працаваў беларускі аўтар, а гасцямі былі Кандрат Крапіва, Максім Танк, Еўдакія Лось, сабраліся сучасныя паэты, акцёры і фотамастакі.

Прэзентацыя праекта *Textura.by*, літаратурнага сайта, закліканага дапамагаць творцам заявіць пра сябе, стала першай і надзвычай важнай падзеяй у праграме мерапрыемства.

Што такое *Textura.by*? Пляцоўка для творчасці паэтаў, празаікаў і драматургаў, не абмежаваная моўнымі ці нейкімі іншымі межамі. Галоўнае патрабаванне для аўтараў — пісаць свае творы шчыра, сэрцам, а не дзеля таго, каб апублікавацца. Акрамя літаратурных тэкстаў на партале можна знайсці аналітычныя агляды, інфармацыю пра культурныя падзеі.

Па словах заснавальніка сайта, паэта і студэнта БДУ Андрэя Фаміцкага, ідэя прыйшла нечакана, яшчэ ў 2012 годзе. Потым у праекта з'явілія першыя аўтары, якія сёння сталі добрымі сябрамі. Менавіта іх вершы гучалі падчас імпрэзы ў музеі. Цікава, што маладыя творцы — вельмі шматгранныя асобы з непаўторным бачаннем свету. Таццяна Светашова, Наста Кудасава, Ксенія Галіцкая, Мікіта Трафімовіч, Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Крысціна Скрыган, Ірына Карэліна, Андрэй Фаміцкі — усе яны прыцягваюць увагу чытачоў пранізлівымі і мудрымі, турботнымі і клапатлівымі, сумнымі і дасціпнымі, заўсёды душэўнымі радкамі.

Сярэднявечнымі фарсамі аздобілі вечар у музеі ўдзельнікі тэатральнай школы «Вобраз». А потым адбылася прэзентацыя фотавыстаўкі пад назвай «Край». Аўтар Вікторыя Розум, архітэктар па адукацыі, любіць назіраць за лініямі будынкаў і абрысамі ландшафтаў родных, блізкіх сэрцу куткоў Радзімы, выбіраючы незвычайныя ракурсы. Яе фотаздымкі з'яўляюцца своеасаблівым арыенцірам для тых, хто, блукаючы па свеце ў прасторах часу, хоча вярнуцца ў юнацтва, узнавіць і захаваць мінулае.

У працяг імпрэзы, якая цягнулася амаль да поўначы, клубам *Grapho* было зладжана літаратурнае шоу з экспромт-чытаннем вершаў і творчымі трэнінгамі. Крышачку стомленыя, але зацікаўленыя гледачы здолелі ўбачыць спектакль па матывах карыкатур дацкага мастака камуністычнага кірунку Херлуфа Бідструпа ад рэжысёра Вячаслава Сашчэкі. А потым — паназіраць за ажыўленымі карцінамі ў выкананні, зноў жа, акцёраў, гэтым разам — тэатральнай майстэрні «Студыёзы», у якой занятыя студэнты і выпускнікі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Маладыя. Крок за крокам

Чарговы этап фестывалю маладой паэзіі, арганізаванага па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбыўся ў сталічнай бібліятэцы № 21. Гэтым разам публіцы прадставілі свае творы член СПБ Яна Явіч, лаўрэат паэтычнага конкурсу сярод студэнтаў БДУ «Славянскі калейдаскоп» Таццяна Купрыянец і ўдзельніца літаратурнай студыі «Малінаўскія галасы» пад кіраўніцтвам вядучай імпрэзы, паэтэсы Іны Фраловай, Валерыя Ісаковіч.

У якасці члена журы на фестываль завітала паэтэса, сябар СПБ Анастасія Кузьмічова. Пажадаўшы маладым творцам не спыняцца на шляху ў літаратуру, яна прачытала некалькі ўласных вершаў. Слова ўзяла І. Фралова, якая распавяла пра дзейнасць студыі «Малінаўскія галасы» і запрасіла слухачоў да ўдзелу ў яе пасяджэннях. Пасля са сваімі творамі выступілі і ўдзельніцы фестывалю.

Перад гледачамі ў гэты дзень стаяла няпростая задача. Яны мусілі не толькі пісьмова адказаць на пытанне пра ролю і значэнне паэзіі ў сваім жыцці (аўтары лепшых адказаў атрымалі ў падарунак кнігі ад Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і асабіста ад А. Кузьмічовай), але і з дапамогай тайнага галасавання вылучыць з ліку выступоўцаў самага таленавітага творцу. У выніку лаўрэатам фестывальнай прэміі «Паэтычная котка» стала студэнтка 4 курса фізічнага факультэта БДУ Таццяна Купрыянец.

**Арына КРАЙКО**

Васіль МАКАРЭВІЧ



## Закройшчык

**1**

*Зайздрошчу тым,*
*Хто ў чарадзея з Крошына,*
*Што, бы з пахмелля, піў прыгону лёк,*
*Як ён каваць,*
*вучыўся быць закройшчыкам*
*І не з аўчын мядзведжых,*
*А з аблок.*

*І кожны знаў,*
*Каб адмастачыць выкрайку,*
*Замала слыць з дзяцінства мацаком.*
*У справе гэтай не паможаш выкрыкам,*
*Ну а тым болей грозным*
*Мацюком!*

*Ва ўсім і ўсюды*
*Кемнасць верхаводзіла, —*
*Хай дождж імжыць а ці як з прорвы лье, —*
*А футра з чыстых воблакаў выходзіла*
*Не горш, чым дзесь у модным*
*Атэльe!*

*Фарсілі ў гожай,*
*Крою непрывычнага,*
*Якому пазайздросціў бы й Нерон, —*
*З палою ў тры паловы Атлантычнага*
*І Запаляр'я снежным*
*Каўняром*
*Не толькі на краўца,*
*Прыйшоўшы з вуліцы,*
*Я ўсе іспыты й па марксізме здаў.*
*Вы на прымерку? То навошта муляцца?!*
*Праходзьце, калі ласка,*
*Дама з дам!*

*Фігура ў вас*
*З такой архітэктураю*
*Ды мноствам розных выкрутас-акрас!*
*Вы родам паляшучка, пэўна, з Турава,*
*Дзе з-за красунь у багне*
*Чорт заграз…*

**2**

*Не быў знаёмы,*
*Не дружыў я з цмокамі.*
*І горка мне, што нейкі дабрадзей*
*Да рання дрыхне і салодка цмокае*
*Сярод узгор'яў гэтакіх*
*Грудзей.*

*Прымерка —*
*Не хімера, не містэрыя,*
*Гатоў знімаць яе з вас раз пад сто.*
*Прад вамі на калені стаць*
*з майстэрняю*
*Маё мне дазваляе*
*Рамяство.*

*Як грэшнік,*
*У душы я шчыра каюся,*
*Што часта, бы нырнуўшы у смугу,*
*Рукамі бёдраў і грудзей кранаюся, —*
*Не дакранацца проста*
*Не магу.*

*Сказаць бы вам,*
*Якая вы спакусная!*
*Паставы ў свеце не знайсці ямчэй!*
*Шкада, што нельга дакрануцца вуснамі*
*Да вашых вуснаў, веек*
*І плячэй.*

*Не надта будзе*
*Выкрайка стандартнаю.*
*І пойдзе — вам скажу як на духу! —*
*Паўсотні воблак, як аўчын андатравых,*
*Каб навырост пашыць для вас*
*Даху!*

*Даху, ў плячах*
*І ў рукавах з запасамі*
*Такімі, што, без краю і без меж.*
*Дзе змесціцца маглі б уміг за пазухай*
*З Палессем і красуня*
*Белавеж.*

**3**

*Не прамахнуцца*
*Мне б тут і на каліва —*
*Няхай паможа з Лонданам Мадрыд! —*
*Перш трэба паважацца мне*
*з лякаламі,*
*Пасля ўжо і з нажніцамі*
*Мудрыць!*

*Лісцём дарожку*
*Ўсыпаўшы і выслаўшы,*
*Глядзяцца вербы стомлена ў раку.*
*Мне з вамі толькі раз адзін ля Свіслачы*
*Прайсціся б адвячоркам*
*Пад руку!*

Чынгіз АЛІАГЛЫ



***

*Гэта дзяўчынка ведае сваю справу.*
*Перш-наперш, канечне ж, справа.*
*А пра каханне ды іншае —*
*лепш не пытайцеся,*
*Кожны пан у сваёй хаце сам,*
*Ці не праўда?!*

*Ну, не дзяўчынка, а вогнішча і трава.*
*Ты не крануў,*
*а яна ўжо запальваецца на раз-два!*
*І працуе без стомы,*
*І час не губляе марна.*
*Не шукайце ж зваротаў густоўных,*
*Не трэба марыць.*

*Калі ж у вас смеласці нестае,*
*То забудзьцеся на яе.*
*Праглыніце пачуцці тлумныя,*
*Што не мае, як назваць…*
*Каб яна пра вас не падумала:*
*Вось дзівак.*

## Кубісцкія вершы

*Пяцісценны пакой.*
*На патэльні столі*
*смажыцца жоўтая лямпачка,*
*быццам жаўток.*
*А на стале — цыбуля*
*з ружоваю галавой.*
*Круглая, бы планета,*
*Над ёю — жах*
*быць раскрышанай кулаком.*
*Побач літровы,*
*з доўгаю шыяй, гляк,*
*што хавае на дне віно.*
*Лініі ўсе сыходзяцца — у адной:*
*лініі шыі дзявочай.*
*У цесным пакоі*
*цемра пільнуе куты.*
*Доўгія пальцы дзявочыя*
*на зялёным паркалі —*
*бы светлыя промні.*
*Ляжыць на старой канапе*
*дзіўны юнак. Невядома,*
*спіць ён ці не.*
*Болей нічога дзіўнага:*
*ні дзявочага твару бель,*
*ні тонкія рукі яе,*
*ні ціша,*
*ні змрок у пакоі.*
*Джаз іграе па радыё,*
*каб паяднаць усё.*
*Ці дацягнуцца, хоць гукам,*
*да тых плячэй…*
*Дзесьці ў нетрах зямных, пад домам,*
*ходзяць нябачныя цягнікі.*
*У адказ адгукаюцца*
*нават лыжачкі на стале.*
*Зялёны вандруе звон*
*па зялёным шкле…*
*Дзявочы пагляд сляпы*
*спыніўся на спіне хлопца.*
*А на патэльні столі*
*Смажыцца сонца…*

***

*Не помню нічога.*
*былое — бы шэрая прорва,*
*дзе твары ўзнікаюць на хвілю.*
*Знаёмыя тым, што чужыя.*
*І болей нічога.*
*Зусім.*

***

*Я звыклы да страт,*
*а з часу якога — не знаю.*
*Напэўна, тады,*
*калі моўчкі*
*стаяў*
*перад першым каханнем.*

*...Маўчанне замкнула мне вусны.*
*І словы згубіліся недзе.*
*Я страціў сябе...*
*Відавочна,*
*усё пачалося*
*тады.*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад**
**Таццяны СІВЕЦ**



Фота Кастуся Дробава

Эдвард МІЛІТАНЯН



## Позірк-цянёт

*Кінуў позірк, нібыта цянёт свой, —*
*і выцягнуў мора,*
*У якім раскашуюць расліны*
*і зыркія рыбы сваволяць.*
*Хай спрыяе ім лёс:*
*хай не зведаюць гора і зморы,*
*Хай адно аднаго спажываюць*
*хіба што па Боскае волі.*

*Ты цянёт свой закідваеш зноў —*
*ты не вытрымаў часу,*
*Ловіш вецер,*
*і неба,*
*і хмары,*
*што ў неба ў палоне.*
*Ды ізноў выпускаеш,*
*жадаеш ёй простага шчасця,*
*Гэтай сумнай зямлі,*
*што хаваецца ў цемры жалобнай.*

*Твой цянёт неўтаймоўны*
*нястомна шукае спажывы,*
*Толькі трэці раз кінуў —*
*і выцягнуў срэбныя гукі,*
*Так паветра смяецца з цябе,*
*о, шукальнік выгодаў ілжывых,*
*Так няўдалы рыбар*
*апускае у роспачы рукі!*

## У сэрцы і звонку

*Звонку —*
*сонечны дзень,*
*У сэрцы —*
*чаканне смерці*
*Загарталі скуру сына твайго, Адаме.*
*А ўсё з-за нейкага яблыка.*
*Словам не адмяніць*
*Божую кару.*
*Просты смяротны:*
*Шпацыруе на працу, кашулі прасуе.*
*Толькі пакута ў яго — біблейская.*

## Беспрацоўны паэт

*Беспрацоўны паэт не піша,*
*Што паробіш тут — беспрацоўны.*
*Частка яго чытачоў — у Нямеччыне,*
*Частка штурмуе Галандыю,*
*Трохі — у Індыі,*
*Апантаных чытачак сляды —*
*спрэс у Турцыі,*
*Ды яшчэ нехта,*
*быццам бы «з тых хлапцоў», —*
*у Амерыцы.*
*Мінулыя чытачы разбегліся,*
*Новых знайсці —*
*патрэбны юначы спрыт*
*і тое,*
*што клічуць*
*«менеджмент».*
*Вось стол пісьмовы яго,*
*Жонка тут сушыць пятрушку,*
*Што пахне не горш за кнігі.*
*Узімку будзе чым суп аздобіць.*
*Можа,*
*тады паэт успомніць*
*пра гэты жнівень,*
*Успомніць,*
*як некалі песні*
*Сініцамі ў неба ляцелі.*

**З армянскай.**
**ПеракладТаццяны СІВЕЦ**



Дзяніслаў НІЧЫПАРОВІЧ

# Пералётныя птушкі

*Апавяданне*

Вершаліны выносістых дрэў блізка тыльнага боку ЦУМа часам абседжвае незлічоная чарада чорных пералётных варон. Пасядзяць колькі хвілін і раптам з нейкай невядомай людзям каманды разам узнімаюцца ўвысь і злавеснаю чорнай хмараю некуды ляцяць па сваіх птушыных справах…

Пералётнымі бываюць не толькі птушкі, але і людзі таксама…

Чаканна-бравая фігура спадарыні Лазюк паказвае на яе дзейнасць і рашучасць. Маці яе была медсястрою, ёй жа схацелася стаць урачом, аднак у мединстытут не прайшла па конкурсе. Тады атрымала эканамічную адукацыю і знайшла сябе — за запраўскае ўменне яе нават залучалі ў вярхі да распрацоўкі сур'ёзных эканамічных праектаў.

Жыла ў вясёлым абласным цэнтры, паблізу маці і яе гаспадаркі з кароўкаю і курамі. Мела вартую працу, добрую кватэру ў самым цэнтры горада, пашану, павагу, дастатак, падатлівага чалавека, сына з дачкою, да яе зусім не падобных: яна — бялява-рыжаватая, беласкурая, яны ж абодва смуглыя і чарнявыя.

Але аднойчы паспяховай жанчыне з шалу падалося, нібыта ў гэтым горадзе ёй нестае долі. Рашуча мяняе сваё жыццё: скасоўвае з мужам шлюб, маўляў, не здольны да важных спраў ды яшчэ на падпітку набок пазірае і пералётнай птушкаю ляціць па пратэкцыі ў зваблівую маскоўскую нафтавую кампанію. Адно грошы «за так» не даюцца — давялося калясіць па ўсёй неабсяжнай Расіі. Урэшце застудзіла далікатныя органы, вярнулася, бы падбітая, у роднае гняздоўе. Але пасля Масквы яно ёй здалося занадта правінцыяльным, ды і ў мясцовых урачах неяк сумнявалася. Надумала сямейны пераезд у Мінск.

У недалёкім часе яна ўжо ў сталіцы з дзецьмі, і нават не толькі з імі — прыхапіла з сабою для душы былога сужыцеля памерлай сяброўкі: рослага ўкормленага мацака. «Не зашкодзіць, яму цяпер адзінока!..»

Хай будзе «адзінока», але выйшла загвоздка: у купленай кватэры разам з рамонтам зрабіла перапланіроўку — аб'яднала малую кухню з сумежным пакойчыкам і ў выніку замест трохпакаёўкі атрымала двухпакаёўку. Адзін пакой заняла сама з партнёрам, другі аддала блазнаватаму сыну, дачцэ ж месца не хапіла.

Спадарыня Лазюк забылася, што адказвае за дачку перад Богам, адпраўляе яе на знятую аднапакаёўку, а свайму хахалю стварае цяплічныя ўмовы і падае яму ў беласнежную пасцель румяныя пірагі ўласнага печыва і каву. Размовы бабнікаў пра тое, што жанчынкі з агеньчыкам юрлівасці чым сталейшыя, тым больш ласыя да мужчынскіх пяшчот, пацвердзіліся…

У сталіцы спадарыня Лазюк ужо добра асвойталася. Спрыяюць службовая пасада — галоўны бухгалтар адзінай у краіне транспартнай канторы — і шмат землякоў, пералётных птушак. Калі ўлічыць яшчэ ейны дзелавы спрыт і прыроджаную бесцырымоннасць, то ў выніку атрымліваецца ўпарта-ўвішная разнапланавая службоўка з першачарговым забеспячэннем уласных інтарэсаў.

Амбарасу перад ёю па самую завязку: падлячыцца самой, уладкаваць неяк на вышэйшую адукацыю сына, выдаць замуж пераспелую ўжо дачку і, самае галоўнае, купіць ці пабудаваць у прыгарадзе хату з хлявом і перавезці маці ды яе кароўку, каб не матацца па выхадных удалеч…

Асабліва ёй пашчасціла з лячэннем. Дазналася, што ў яе доме жыве ўрачклініцыстка, навязала ёй сваё знаёмства, і тая вывела яе на шлях аздараўлення. Суседка-дабрадзейка міжволі трапіла ў яе прагавітыя сілкі і стала яе як бы хатнім урачом. Ды каб жа лекаваць яе з сям'ёю, а то ж яна пусціла ласку на спажывецкі паток і стала назаляць ёй сваімі шматлікімі знаёмымі і браць з іх за паслугу сабе грошы. Адно яна не ўлічыла, што ўрачыха таксама мае свой рашучы характар і неўзабаве ўсё гэта перапыніла: «На мяне дзе сядзеш, там і злезеш!..»

Прытулак для маці з кароваю выбіраўся надта рупна, нарэшце выгадна купіла новы, праўда невялікі, зрубны дом на дваццаці пяці сотках зямлі. Адразу распачала мураваць дзве прыбудовы па абодва бакі хаты і рубіць з новага лесу хлеў для рагулі з паддашкам для сена і кухняй, каб адасоблена ад хаты гатаваць карове корм і пойла…

Гэта скора пішацца, але не скора ўсё будавалася. З абмежаванымі грашыма не вельмі разгонішся сярод несупыннабурлівага кошту на будаўнічыя матэрыялы і работы. Каб сэканоміць, сама цягала майстрам раствор, цэглу, бярвенні. Давялося пару разоў папрацаваць там і ўладару яе сэрца, адно работа ў яго не пайшла, больш таго, зразумеў, што наперадзе яго чакае несупынная рабінзанада на ненавісных сотках.

Маючы заганную хібу, гэты інжынерэлектрык штодня вяртаўся з работы напеpакасяк і ніяк не змог з пахмелля паварушыцца. Доктарка па просьбе Лазюк паставіла яму кропельніцу, і ён, стогнучы і вохкаючы, крыху ачуняў. Але тут узбунтаваліся яе сын і дачка: «Ма-ама, калі гэта скончыцца?! На каго ты нас прамяняла!..»

Маці ўпершыню паслухалася дзяцей: гуртам выказалі нахлебніку ў яго азызлы твар усю сваю крыўду, а сама накрычала, каб раніцаю яго духу тут не было. Аднак той веснавою духмяніста-зорнай ноччу вельмі пастараўся, і яна яму даравала. «Зарокся піць!..» — апраўдвалася…

Мінула вясна, настала прыхільнае лета. Гаспадыня не вылазіла з будоўлі, па выхадных ездзіла да маці па малочныя стравы і яйкі.

Яе памілаваны партнёр напраўду не піў, але аднойчы рашуча выхапіўся з пад'езда з двума напаўпустымі пакетамі, зацкавана азірнуўшыся, кудысьці пашыбаваў…

«Ён кінуў мяне і пайшоў да другой! — апавясціла дзяцей спадарыня Лазюк і вымучана данесла падрабязнасці: — У яго, аказваецца, акрамя мяне была яшчэ адна жанчына! Пакуль я ездзіла да мамы, яны здымалі кватэру на суткі!»

З тыдзень абдураная хадзіла апусціўшы галаву, а во зноў бадзёрая і стойкая: «Нарма-альна! Прыходжу з работы, пад'ем ды адпачываю, не трэба нікому гатаваць ды дагаджаць!..»

Не паспела ў ёй устаяцца душэўная раўнавага, як абрынулася яшчэ адна непрыемнасць. Заявілася прыгнечаная, зарумзаная дачка і надарваным голасам паведаміла, што яна цяжарная, але віноўнік катэгарычна заявіў, што дзіця яму не патрэбна, і сказаў, каб рабіла аборт: «Мамачка, дарагая, ты і так працуеш як заведзеная машына, і на рабоце, і да бабулі ездзіш, і сядзібу нам будуеш, а тут яшчэ я дадала табе назолы…» — «Сціхні, з любога становішча ёсць выйсце! Дай падумаць!..»

Маці шкадавала дачку, бо добра ведала, што зацяжарала тая ад сямейнага багацея сталага веку, з якім пяць гадоў мела любошчы, а яна, разлічваючы, што ён урэшце заменіць сваю жонку-аднагодку на маладую, дачцэ патурала. Адно ж сям'ю слабак кідаць не схацеў і цяпер, як ні разважай, усё сыходзіцца да аднаго — без дзіцяці ў дачкі большая верагоднасць выскачыць замуж.

На гэтай пралётнай думцы яна пабегла да доктаркі. Адно тая, пачуўшы пра аборт, ад абурэння так пабарвавела, што на яе рабаціністым твары пахаваліся ўсе боскія зорачкі: «Ды вы што-о! Які або-орт! Бог даў ёй шанц стаць мамаю, ёй жа ўжо трыццаць гадоў, можа, больш не будзе магчымасці займець дзіця! Бяздзетныя жанчыны вунь гадамі ходзяць на экстракарпаральнае апладатварэнне, вялізныя грошы плацяць, каб зацяжараць, а вы што задумалі! Ніякіх абортаў! Толькі нараджаць! Аборт — гэта забойства! Я з-за вас такі грэх на сваю душу браць не буду!...»

Цяжарная паслухалася яе парады і ад аборту адмовілася. Неўзабаве пайшла ад сваёй фінансавай канторы ў дэкрэтны адпачынак, удала вынасіла дзіця і напрадвесні праз аперацыю абрадзілася хлопчыкам: «Мой ненаглядны!.. Мая крывіначка!.. Маё птушанё!..»

Зіма засцерагла сябе за надзейнымі снежна-лядовымі замкамі, але яе зухаватая зменшчыца папросту з імі саўладала: дыхнула цяплом, прасвятліла далягляды, праясніла нябесныя высі, ажывіла зеляніну…

Веснавое хараство яшчэ больш абвастрыла пачуцці жанчыны, яе маркотныя думкі і тужлівыя ўспаміны. Да родаў яна была вольнай у сваіх дзеях і паходах, як было, па дыскатэках ды карпаратывах, дзіця ж звязала яе па руках і нагах — нязвыкла. Пералётным птушкам аселасць не па нутры. Асабліва балюча прыгадваць, як яе «бойфрэнд», калі яна аддавала яго ўладзе сваё пажадлівае цела, у прыліве страсці абцалоўваў яго з галавы да ног і мармытаў кранальна-пяшчотныя цацанкі-абяцанкі пра каханне і сумеснае жыццё…

Нарэшце яна цалкам зразумела, што гэта было ніякае не каханне, а ўсяго толькі ўзаемна-сексуальнае прытворства: яго — валоданне маладой жанчынаю, яе — ілюзорнае жаданне разбагацець. У цёмна-карых вачах жанчыны пасяліўся несуцешна-запознены тлум раскаяння, на сэрца пякельным каменнем легла разуменне таго, што яна жорстка памылілася, змарнавала сваю маладосць і што яна цяпер маці-адзіночка, а яе сын — байструк…

Але ж як бы там ні было, ён з'явіўся на свет Божы і яго трэба даглядаць, карміць і апранаць. Зразумела, да гэтага трэба далучаць бацьку-адступніка, тым больш што на грошы ў яго недахопу няма: гандлюе лесам, мае некалькі кватэр і здае іх у наём, а нядаўна адгрохаў сабе на Браслаўскіх азёрах загарадны дом; сям'я ж малая: ён, жонка і дарослая дачка, ды і тая жыве ў Маскве, так што няхай раскашэльваецца.

Да сустрэчы з ім яна рыхтавалася вельмі пільна: схадзіла некалькі разоў у трэнажорную залу на фітнес, накладала на твар касметычныя маскі, у цырульні зрабіла манікюр і педыкюр — у яе аблуднай душы яшчэ тлела надзея, што ён кіне сям'ю і пабярэцца з ёю.

Аднак цуду не адбылося. Звестку пра сына той сустрэў абыякава і непадатліва, пабачыць яго, змяніўшыся з твару, наадрэз адмовіўся, але долараў ніштавата даў і ў далейшым раз на месяц выдаваў ёй «зялёныя» на ўтрыманне сына. Яна несвядома паводзіла сябе з ім груба і задзірліва, абражала і пагражала. Можа, гулёне-дашлюбніцы не трэба было б з ім так сябе трымаць. Яму, відаць, гэта надакучыла, — ён жа яе не прымушаў, не сілаваў, яна сама па сваёй добрай волі распасцёрла перад ім свае гарачыя абдымкі, то чаму яна толькі на яго аднаго ўскладае ўсю адказнасць, — і таксама занатурыўся: «За што я даю табе грошы — давай адновім нашыя ранейшыя адносіны!..»

Яе рэакцыя на яго прапанову была падобная той, якую адчувае чалавек, які, ідучы ў поцемках, раптам натыкаецца на загароду з калючага дроту. Яна, нарэшце, зразумела, што ў жонкі ён яе ніколі не возьме і што яна патрэбна яму толькі для пасцелі. Ёй пара б ужо было ведаць, што мужчыны ставяцца да дзяўчат, якія спяць з імі да замужжа, толькі як да пасцельных забаў…

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб прадпрымальная маці не ўладкавала яе ў адзін маскоўскі прыватны банк на нелегальны падзаробак да сканчэння дэкрэтнага адпачынку.

Нічога сабе! Дзіця пакінула на бабулю ў Мінску, а сама з'ехала ў Маскву. Не кожная мама на такое пойдзе. Апраўданне: спадзявалася, што ў Маскве апрача падзаробку знойдзе сабе палавінку…

Летуценіць нікому не забаронена, аднак трэба рэальна ацэньваць сваё становішча і свае магчымасці. Масква любіць грошы, прыгажосць, адоранасць, пакараць яе няма чым: яна не музыка, не спявачка, не мастачка, не спартсменка, ды і пагляднасць яе няпэўная: тварык нібыта гожы і дагледжаны, але нос даўгаваты і танклявы, жаночай жа прывабнасці зусім нямашака — надта ж ужо кашчавая. Аднак чым чорт не жартуе, можа, у Маскве і знойдзецца аматар худзіны, яны там усе на дыетах. Дай-то Бог!..

Напярэдадні ад'езду адкрыла ў ашчадным банку свой валютны рахунак, бойфрэнду ж сказала, быццам не можа яго бачыць, хай кладзе долары на яе дэпазіт…

У Маскве па сыну тужыла, часцяком наведвала і заадно атрымлівала бойфрэндаўскія долары, але аднойчы здымаць не было чаго — мусіць, дазнаўся, што яна не глядзіць сына, і адмовіўся. Вызверылася: «Я яму пакажу! Ён мяне запомніць!..»

Малы ж рос і развіваўся: своечасова стаў хадзіць, гаварыць і гарэзіць, праўда, занадта натурысты і крыклівы. Неяк, уперыўшы ў маму такія ж, як і ў яе, цёмна-карыя вочы, па-даросламу спытаў: «Мама, а дзе мой тата?..» Зманіла: «Сыночак, твой тата вельмі важны і багаты чалавек, цяпер ён у працяглай камандзіроўцы, але да цябе абавязкова прыйдзе, і ты будзеш багатым!»

Сямейная будоўля таксама расла, ніякія перашкоды і асечкі яе не спынялі. І вось нарэшце стараннасць на мяжы рызыкі і мэтаскіраванасць спадарыні Лазюк далі варты плён, і справа завяршылася. Дзве тысячы трынаццаты год ад народзін Хрыстовых стаў для яе двойчы паспяховым: уціснула за хабар вучыцца на інжынера сына і перавезла на новы панадворак сваю маці з яе кароваю, курамі і сабакам.

Праўда, толькі дачка падводзіць — вярнулася з Масквы адна, спадзеўкі на пошук мужа не апраўдаліся. Аднак спадарыня Лазюк не губляе аптымізму: «Нічо-ога, не знайшла ў Маскве — знойдзем яго ў Мінску!..»

Але пакуль гэта адбудзецца, маці-адзіночка спаткалася са сваім бойфрэндам і паставіла яму катэгарычны ўльтыматум: альбо ён працягвае выдаваць ёй грошы з улікам запазычанасці на ўтрыманне сына, альбо яна падае на яго ў суд на аліменты і падзел яго маёмасці.

Той іранічна ўсміхнуўся: «Што ж, калі хочаш афіцыйна абняславіцца, то падавай, але ведай, на судзе я немінуча патрабую правесці экспертызу ДНК на сапраўднасць майго бацькоўства!»

Ісціца раптам засмуцілася і, зніякавелая, пайшла ад яго…

Пералётныя птушкі вяртаюцца з выраю весялейшымі.

# Дунілаўцы нашы…

У лімаўскай падборцы мініяцюр Юліі Зарэцкай «Калі не маўчыцца», змешчанай 15 лістапада 2013 года, мая ўвага запынілася на гэтым запісе: «Тое, што вясковыя людзі — надзвычай дасціпныя, я ведала даўно. Ды што там ведала: сама такая (у сэнсе, з вёскі)! І вось яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму. Прыехала дахаты і пачула ад бацькоў, што П. трымае… французскую карову. Ну, думаю, дае, трэба ж было недзе яе адшукаць, за немалыя, відаць, грошы набыць, прывезці… Праз хвіліну рагачу да слёз, бо высвятляецца, што французская карова — гэта… каза. Ну, ці прыдумаеш?..»

Падобныя жарты і прыгоды, што адбываліся ў розны час з дунілаўцамі, ляглі ў аснову апавяданняў, гумарэсак Ю. Зарэцкай, якія друкаваліся ў «ЛіМе», часопісах «Полымя», «Маладосць», «Вожык» і інш. Многія з іх склалі змест яе другой кнігі «Суседзі», выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Да месца сказаць, што першая — «Шчаслівыя людзі» — выйшла ў 2011 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» і была адзначана прэміяй «Залаты Купідон» у намінацыі «Лепшы твор 2011 года ў галіне сатыры і гумару» (2012).

Адразу бачна, што кніга напісаная з любоўю да землякоў. І ў той жа час — з тонкім гумарам. У якія толькі сітуацыі не трапляюць вяскоўцы! Часам камічныя, часам — драматычныя. Ды, як бы там ні было, заўсёды застаюцца дунілаўцамі. Такімі, якімі былі ці ёсць іх прататыпы.

Каларытнымі атрымаліся вобразы персанажаў Тадзіка Чорнага, Фэлькі Барадатага, дый дунілавіцкая кабета Лілька Кукель выпісана надзвычай жыва. Што ж, Юлія Зарэцкая ўмее «жывапісаць» словам і пісаць так па-майстэрску, што апавяданні чытаюцца на адным дыханні. Праўда, з перапынкамі на смех.

Юлія Зарэцкая — прыхільніца традыцыйнай прозы. У яе творчасці прасочваецца моцнае наследаванне спадчыне Кузьмы Чорнага з ягоным разуменнем «чалавек — гэта цэлы свет». Гэты свет асаблівa поўна раскрываецца ў тых творах пісьменніцы, якія, умоўна кажучы, належаць да «сур'ёзнай» прозы. У шэрагу іх і апавяданне з сімвалічнай назвай «Свет не без добрых людзей», звернутае да падзей Вялікай Айчыннай вайны. У творы расказваецца, як беларусы, не задумваючыся пра наступствы, ратавалі яўрэяў. Гэтым разам небяспека навісла над сям'ёй Давіда Гардона, у якой апроч яго жонка і двое дзяцей.

Першым падступам пісьменніцы да асэнсавання тэмы Вялікай Айчыннай вайны стала ў свой час апавяданне «Пакуль б'ецца яго сэрца...». Апавяданне гэта — сумленнае, выпакутаванае слова прадстаўніцы малодшага пакалення літаратараў. Зазірнуўшы ў сутнасць трагедыі, Ю. Зарэцкая па-свойму асэнсоўвае тэму «вайна і каханне». Пісьменніца не адмаўляе таго, што ў апавяданні ішла ад дакументальнай асновы. Напрыканцы твора, у прыватнасці, сведчыць: «У аповедзе гэтым — жыццё і слёзы маіх бабуль, іх мацярок, свякровак, сясцёр, суседак, сябровак... Я мала распытвала ў бабуль пра вайну, пра тое жыццё, тым больш — пра каханне. У памяці — толькі нейкія абрывістыя ўспаміны, словы ці задумлівыя, засяроджаныя твары...» Аднак гэтых «абрывістых успамінаў» было дастаткова.

Водгалас мінулай вайны, а таксама былога кахання, дае пра сябе знаць і ў апавяданні «Міхаліна». Што гэта было менавіта каханне, юны партызан Сцёпка зразумеў значна пазней, калі стаў мужчынам. Тады ж, пасля вызвалення, застаўся адзін — «загінулі маці з брацікам, а пахаронка на бацьку яшчэ ў сорак першым прыйшла. Сваякоў




ніякіх...», яго запрасіў жыць у сваю сям'ю адзін партызан, які пазней знайшоў яму нашмат старэйшую жанчыну. Міхаліна так любіла яго, так даглядала, што празмерная ўвага ўрэшце надакучыла яму. І ён пакінуў жанчыну... Цяпер жа пра гэта шкадуе.

У апавяданні «А грэх жыве...» вiруюць шэкспіраўскія жарсці. Галоўны герой Раман пакахаў дзяўчыну. Тая адказвала ўзаемнасцю. Аднак уся бяда ў тым, што Алену не прымае ягоная маці. Прычына зразумелая: Альфрэда Савіцкая ніяк не можа змірыцца, што яе сын закахаўся ў тую, каго яна ўспрымае галадранкай. Раман не апускае рукі, тым больш што ў яго даўняя непрыязь да маці...

«Халерная баба Альфрэда», як кажа пра яе адна з суседак, ад мужа «ў першую сусветную вайну збегла з нейкім рускім афіцэрам. Раману тады пайшоў восьмы гадок». Калі праз восем гадоў адумалася і вярнулася, муж дараваў ёй здраду. А вось Раман, як ні ўгаворваў яго бацька, на гэта пайсці не мог. Цяпер жа маці стала на шляху і ягонага шчасця: «у сэрцы Рамана тым часам расла чорная, атрутная злосць. Яе ўмацоўвала матчына непрымірымасць, зацятасць, варожасць. Мінаў дзень за днём, ноч за ноччу, але нічога не мянялася — маці Алену не прымала, не жадала бачыць у нявестках». Раман вырашыў узяць на сябе грэх. Але, застрэліўшы маці, зразумеў, што ўсё адно шчасця не будзе. І тады ён забівае каханую. Шмат увабралі ў сябе заключныя радкі: «Цёмнай ноччу, калі ўсе добрыя людзі спяць, калі спачывае сама прырода, прагучаў яшчэ адзін, апошні стрэл. І, нібыта чакаючы гэтай хвіліны, заскавыталі сабакі, працяжна заскуголілі адзін за адным. На Аленінай магіле нерухома ляжаў Раман. Сырая магільная зямля хапатліва ўбірала ў сябе яшчэ адну грэшную кроў...»

Пасля знаёмства з гэтым апавяданнем упэўніваешся, што проза Ю. Зарэцкай шматгранная. Маладая пісьменніца плённа працуе ў галіне гумару, але яна можа заставацца і тым глыбокім рэалістам, якога цікавіць жыццё ва ўсёй складанасці і драматычнасці.

Перагортваючы апошнюю старонку, я міжволі прыгадаў драматурга Івана Козела. Дакладней, не столькі яго самога, колькі ягоную п'есу «Канчане — суседзі мае». Гэты твор, які быў апублікаваны і пастаўлены пад назвай «Над хвалямі Серабранкі», меў яе невыпадкова: вёска Канчаны, што ў Маладзечанскім раёне, — радзіма І. Козела, а некаторыя ягоныя землякі сталі прататыпамі.

Гэтаксама і Ю. Зарэцкая прагцягвае чэрпаць сюжэты з жыцця дунілаўцаў. Пры гэтым падае персанажаў так, што яны, прывязаныя да канкрэтных жыццёвых рэалій, да пэўнага месцажыхарства, здаюцца блізкімі і знаёмымі. Таму правільным будзе сказаць: дунілаўцы — суседзі нашы, бо, як слушна зазначыў у канцы свайго апавядання «Ильинский омут» Канстанцін Паўстоўскі: «Человеку никак нельзя жить без родины, как нельзя жить без сердца».

**Мікола ДЗЯЦКО**

# Калі сняжыўся квет вішнёвы

Сёлета ў гомельскім выдавецтве «Барк» выйшла кніга лірыкі Міхася Башлакова «Музыка нязваная». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхась Башлакоў заўсёды здаваўся мне паэтам-грамадзянінам, які піша пра Айчыну, абуджае патрыятычныя пачуцці, і раптам — вершы пра каханне.

А таксама — пра тую сусветную любоў, якая кіруе светам. Ствараецца ўражанне, што аўтар любіць увесь Божы свет і ўсякую істоту, што насяляе зямлю. Больш за тое — у яго ўвесь свет жывы:

*Уся нібыта свеціцца —*
*Чаромха ў белай квецені.*
*Як кавалер той, верціцца*
*Каля чаромхі вецер...*
*Яна ж стаіць духмяная,*
*Цвіце — не адцвітае,*
*Як дзеўчына каханага*
*Ля веснічак чакае...*

Любоў — галоўнае ў жыцці, ёю кіруецца само жыццё. Гэты пастулат ляжыць у аснове паэзіі М. Башлакова, які праз вершаванае слова спрабуе перадаць усю шматграннасць настрою і пачуццяў чалавека. Лірычны герой — то наіўны малады хлопец з палкім сэрцам і вулканам жаданняў, то сталы чалавек з пасівелымі скронямі, але таксама здольны адчуваць.

Вершы, якія склалі кнігу «Музыка нязваная», пісаліся ў розныя гады. Гэта бачна як па тэмах, так і па мастацкім ўзроўні.

Часцей за ўсё пры чытанні нельга аддзяліць вобраз лірычнага героя ад асобы паэта, але было б памылкова думаць, што кніга інтымнай лірыкі М. Башлакова аўтабіяграфічная: паэт у ёй абагульняе свой жыццёвы і паэтычны досвед для таго, каб гучала «музыка нязваная» для ўсіх, хто жадае яе пачуць:

*Ах, гэта музыка нязваная*
*Душу агорне незнарок...*
*Ах, гэта музыка чароўная,*
*Ах, гэта песня для душы,*
*Нібыта поўня ў срэбным чоўне,*
*Раптоўна выплыве з цішы...*

Жанчына ў вершах М. Башлакова паўстае то рэальнай Анастасіяй ці Янінай, то казачнай снягуркай, то вабным матыльком, які «аднойчы ў дзень марозны растане, нібы ў сне...»

Не менш пяшчотныя пачуцці выказвае чалавек да прыроды. У вершы «Чмель» паэт любуецца: «Такі прыгожы, малады, рухавы... // Як не любіць?» і зайздросціць яму, бо ў людскім свеце менш гармоніі, чым у прыродзе:

*Ну што ж, ляці...*
*Дабра табе жадаю.*
*Хаця я горай за цябе жыву:*
*Ты першым кветкі ў лузе аблятаеш,*
*А я пасля іх для дзяўчыны рву...*

Наогул, вершы пра каханне ў кнізе М. Башлакова больш сумныя, чым радасныя і аптымістычныя.

Лёгкасць і яскравасць радка — важкая асаблівасць творчасці паэта. Здаўна чырвоны колер лічыцца колерам кахання, магчыма, таму М. Башлакоў часта ім карыстаецца:

*Гляджу на дзяўчынку з замілаваннем.*
*Яна ж чырванее, яна ўся гарыць,*
*Дзяўчынка з вядзерцам духмяных суніц;*

*Хмеляць спелыя суніцы...*
*Спелых губ тваіх маленне.*
*Чырванеецца спадніца,*
*Як спакуса, на каленях.*

Ці існуе чыстае каханне? Паэт, на мой погляд, сцвярджальна адказвае на гэта пытанне. Для адлюстравання чысціні пяшчотнага пачуцця ён выбраў белы колер — вобраз белага снегу:

*Першы снег як позірк твой дзівосны,*
*Першы снег як напамін пра вёсны —*
*Час, калі сняжыўся квет вішнёвы.*
*Першы снег — нясказаныя словы...*
*Першы снег як музыка, як песня,*
*Першы снег растане і ўваскрэсне.*

Прайшлі гады, «сняжынкі халодзяць гарачую памяць», лірычны герой пасталеў, «Ды тая ж усмешка на вуснах тваіх, // І тыя ж чароўныя мілыя вочы, // І мы удваіх, мы з табой удваіх, // Адны сярод гэтай заснежанай ночы...»

Словы, якімі паэт апісвае прывабнасць маладых дзяўчат, могуць




«грашыць» натуралізмам, але так ён малюе прыгажосць маладосці.

Што тут яшчэ дадаць? У беларускай літаратуры ёсць нямала вершаў, прысвечаных самаму светламу і пяшчотнаму пачуццю чалавека. І гэтую песню кахання працягвае Міхась Башлакоў у сваёй новай кнізе.

**Надзея СЕНАТАРАВА**

# Далеч часу, памяць сэрца

**Творчасць класікаў літаратуры мы (чытачы) схільныя ўспрымаць як дадзенасць (хрэстаматыйную, анталагічную), аўтарытэтна падмацаваную вучэбнымі дапаможнікамі, грунтоўнымі навуковымі працамі. Гэта натуральны шлях адукацыі кожнага чалавека, звыклыя этапы спасціжэння пісьменніцкай спадчыны, але спасціжэння завочнага, абстрагаванага.**

Літаратурны музей — адна з дзейсных магчымасцей увачавідкі пераканацца ў рэальнасці абставін жыцця і творчасці класіка, напоўніць абстрагаванасць кніжных тэкстаў канкрэтыкай дэталяў, адчуць літаратуру «навобмацак». Пра гэта ўсё сваё свядомае жыццё дбаў Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, заснавальнік і шматгадовы дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

Дваццаць гадоў таму Рыгор Барадулін даслаў Данілу Міцкевічу паэтычнае віншаванне, тэкстава захаваўшы пры гэтым усе атрыбуты паштовага адпраўлення: «*Куды: Краіна родавых гнёздаў. Каму: Яе першаму ахоўніку і сымболю*». Сёння, калі адрасат і адрасант ужо «выбылі» ў лепшы свет, барадулінскія трохі гарэзлівыя словы (паэт найперш хацеў падбадзёрыць хворага сябра) успрымаюцца як застылае ў адмысловых карунках вечнасці пасланне — з прыязнай усмешкай, нязменным жыццялюбствам, што «*зацьвітае добрай сілай*».

У доме старэйшага сына Якуба Коласа — «*Краіне родавых гнёздаў*» — сёлета старанна рыхтуюцца да стогадовага юбілею Данілы Міцкевіча. Важнай падзеяй не толькі ў сям'і нашчадкаў песняра, але і ў культурным жыцці рэспублікі наогул стаў нядаўні выхад кнігі «І бачу пройдзеныя далі…» (Мінск, «Кнігазбор», 2014), рупліва падрыхтаванай Верай Данілаўнай Міцкевіч.

Выданне стала лагічным працягам зборніка мемуарных запісаў «Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа» (Мінск, «Полымя», 2000), укладзенага таксама ўнучкай паэта. Канцэптуальнае адрозненне дзвюх кніг у тым, што ў сёлетняй у цэнтры ўвагі асоба самога Данілы Міцкевіча, яго шматгадовая праца па захаванні, папулярызацыі беларускай літаратуры. Гісторыя Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў Мінску і яго філіялаў на Стаўбцоўшчыне — гэта ўжо самакаштоўная з'ява, вартая асобнага даследавання: ад моманту адкрыцця экспазіцыі сталі візіткамі беларускай культуры ў свеце, сюды ехалі госці з усяго Савецкага Саюза і замежных краін. Традыцыі міжнароднага супрацоўніцтва захоўваюцца і сёння.

Уласна геаграфія жыццяпісу Данілы Міцкевіча даволі маштабная, далячынная. Яна натуральна зніцавана з гісторыяй родаў па лініі бацькі і маці — Міцкевічаў і Каменскіх. Біяграфія сёлетняга юбіляра звязана з гарадамі-этапамі жыццёвага сталення (Пінск, Менск, Пермь, Абаянь, Ташкент, Клязьма, Мінск і інш.), працы на ніве навукі і культуры, а таксама эпахальнымі перыядамі ў гісторыі грамадства.

Асноўны тэкставы корпус выдання «І бачу пройдзеныя далі…» складаюць дакументы, лісты, дарчыя надпісы, падмацаваныя фотаздымкамі і бібліяграфіяй. Многія матэрыялы друкуюцца ўпершыню, а таму маюць асаблівую каштоўнасць для даследчыкаў.

Кнігу суправаджаюць уступнае слова і пасляслоўе Веры Міцкевіч, прадмова «Непаўторны шлях» Сяргея Законнікава, мемуарныя нататкі «Разам па жыцці» Аляўціны Міцкевіч, — сведчанні родных і блізкіх людзей Данілы Міцкевіча, якія ствараюць эмацыянальную, памятную абалонку-вокладку дакументальнай асновы выдання.

Важкасць кнігі «І бачу пройдзеныя далі…» найперш у яго архіўнай значнасці, што становіцца зарукай увагі даследчыкаў жыцця і творчасці Якуба Коласа, гісторыі беларускай літаратуры. Але і ў гэтых, на першы погляд старонніх, сведчаннях асобы і часу раз-пораз сустракаюцца радкі-агменьчыкі сямейнай утульнасці і бацькоўскага клопату. Так, у лісце Якуба Коласа да сына Данілы ад 29.09.1950 г. чытаем: «*У нас дома ўсё ў парадку. Бульбу ўжо выбралі. Яблыкі засталіся толькі на некалькіх яблынях. Адну яблыньку я прасіў не атрасаць да твайго прыезду, калі толькі не атрасуць яе жэўжыкі*». Вось так, па-беларуску, стрымана і далікатна, вітаў свайго сына аўтар «Новай зямлі».

Кніга «І бачу пройдзеныя далі…» ўборыстым почыркам дакументальных сведчанняў дапаўняе не адну старонку гісторыі нацыянальнага пісьменства, музейнай справы. Можна спадзявацца, што з яе выхадам папоўніцца пералік настольных кніг коласазнаўцаў, а шырокая чытацкая аўдыторыя прывабіцца аўрай праўдзівасці і першакрынічнасці архіўных сведчанняў эпохі. Словы з прадмовы Сяргея Законнікава, у якіх ён на правах сябра і аднадумцы сведчыць пра любоў Данілы Міцкевіча да Айчыны, слушна падсумоўваюць эмацыянальныя ўражанні ад выдання: «Чалавеку ўдаецца зрабіць за адмераны час многае, калі любіць па-сапраўднаму».

**Мікола ТРУС**

# Адплата за чужы грэх

**Гаворку пра аповесць Хведара Жычкі «Косць твая і плоць твая», што асобнай кнігай пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», хочацца пачаць не з аналізу самога твора, як гэта бывае звычайна, а са слоў падзякі Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь, па замове і пры фінансавай падтрымцы якога ажыццёўлена гэтае выданне, Саюзу пісьменнікаў Беларусі, які таксама парупіўся дзеля гэтага і, вядома, самой «Мастацкай літаратуры». Завядзёнку парушыў па той прычыне, што яшчэ ад самога Хведара Дзмітрыевіча ведаў, з якім нецярпеннем чакаў ён надрукавання гэтай сваёй аповесці.**

Пачынаючы недзе з 1992 года жыў гэтым чаканнем, калі прыняць пад увагу, што ў канцы твора значыцца: «1979 — 1991, Мінск — Валоўшчына — Кактэбель». Доўга пісалася аповесць, доўга ішла і да чытача. Хв. Жычка так і не дачакаўся, каб патрымаць гэтую кнігу ў руках: яго не стала 25 ліпеня 2007 года.

Ды лепш позна, чым ніколі. Прыстойна выдадзены томік, думаецца, прынясе нямала радасці тым, хто любіць прозу жыццёва праўдзівую, глыбока псіхалагічную, тую, што, да ўсяго, ўздымае важныя праблемы. Выхад гэтай кнігі — яшчэ адна магчымасць далучыцца да творчасці Хв. Жычкі-празаіка. Ён жа, як вядома, цудоўна засведчыў пра сябе як паэт, дзіцячы пісьменнік, перакладчык, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Віцезслава Незвала. Але не цураўся і празаічных жанраў — як пішучы для дзяцей, так і асвойваючы пласты прозы «дарослай».

Аповесць «Косць твая і плоць твая» разлічана на сталага чытача. Але цікава будзе пазнаёміцца з творам і старшакласнікам, якія знаходзяцца на парозе самастойнага жыцця.

У былыя часы хапала ўсялякага, у тым ліку — суровых выпрабаванняў, пра што прама, бескампрамісна гаворыць Хв. Жычка ў аповесці «Косць твая і плоць твая», назваўшы яе вядомым выразам з Бібліі. Гэты выраз як нельга да месца: «Вой, Божачкі мой, Божа! Дачакаліся часу, вырасцілі сынка… Як у тым пісанні сказана: «Косць твая і плоць твая…» Улезла во косць твая ў паліцыю, як рыба ў нерат — ходу няма ні назад ні наперад». Так разважае галоўны герой твора Вавіла Пінчук, сын якога, сямнаццацігадовы Міша, — адзіны з вяскоўцаў, хто падаўся на службу да гітлераўцаў. Наўрад ці якога сумленнага бацьку ўсцешыла б такая навіна. Вавіла Пінчук, да ўсяго, — былы калгаснік-стаханавец, лепшы касец у раёне: «Нягледзячы на сваё калецтва — ад нараджэння левая нага карацейшая за правую — усё ўмеў рабіць Вавіла: араць, касіць, малаціць, цясляваць і нават бандарыць…»

Тое, што здзейсніў ягоны сын, Вавілу і ў самым страшным сне не снілася. Аднак гэта рэальнасць, але і змірыцца з ёю бацька не можа. Адзінае выйсце ён бачыць у тым, каб угаварыць сына парваць адносіны з новымі «гаспадарамі». Толькі Міша не надта прыслухоўваецца. Праўда, у рэшце рэшт згаджаецца сустрэцца з партызанамі. Нават нейкае заданне ад іх атрымлівае. Ды на прызначаную сустрэчу не прыходзіць. Вынік прадказальны: калі пачалося вызваленне Гомельшчыны, партызаны Мішу забіваюць. Гэта, па сутнасці, эпілог да асноўнага дзеяння. Аснова ж твора — пакуты душы Вавілы Пінчука.

Кампазіцыйна аповесць складаецца з трох частак: «Якая бяда на зямлі была», «Адмыванне грахоў» і «Адплата за зло». Унутры ж кожнага з іх — не раздзелы, як звычайна, а эпізоды, што стварае пэўную фрагментарнасць. Эпізадычнасць ва ўзнаўленні пэўных падзей, аднак, робіць аўтару добрую паслугу. Хв. Жычка засяроджвае ўвагу толькі на самым галоўным. І гэта кожным разам дазваляе глыбей зазірнуць у душу галоўнага героя, спасцігнуўшы тое, што на самым сподзе яе, а там — цяжкі, вялізны камень. З каменем на душы жыць немагчыма, аднак Вавіла ўсё ж жыве — дзеля свайго сына. Каб даказаць, што той не паліцай.

Натуральна, у аповесці моцны гуманістычны пачатак. Ды толькі ад сябе не ўцячэш: Вавіла і не заўважае, што ў сваёй любові да сына,




па сутнасці, заганяе сябе ў тупік, з якога няма выйсця. Так, ён дамогся, каб сына пахавалі ў брацкай вайсковай магіле. І калі ў адным з раёнаў хвалілі партызана, поўнага цёзку Вавілавага сына, Вавіла выдаў яго за свайго. Пра гераічныя ўчынкі Мішы Пінчука з'явіўся нарыс у адной з абласных газет…

Ды бясконца гэта працягвацца не можа. «Гульня» зайшла далёка. Ад перажыванняў Вавіла пачынае піць, становіцца нікому не патрэбны, нават Лісавеце, з якой дагэтуль мілаваўся, нягледзячы на ўжо немалады ўзрост. Спрэчка з ёю, а таксама прызнанне Лісаветы, што яна ведае ўсю праўду пра ягонага сына, прыводзяць галоўнага героя твора да самагубства. Няма сумнення ў тым, што яго забрала вайна. Яна і праз дзесяцігоддзі пасля заканчэння знаходзіць ахвяр — што яшчэ раз пацвердзіў аповесцю «Косць твая і плоць твая» Хведар Жычка.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Філіпікі чалавецтву

«Вышкі — гэта літаратурныя творы, пераважна невялікай формы, якія прысвечаны таму, або тым, каго мы называем (або пасылаем) на «вы». Вышкі не маюць прэтэнзіі пыліцца на гарышчах хат побач з раманамі, аповесцямі, апавяданнямі, вершамі, паэмамі і іншымі кананічнымі формамі».

Кнігу такіх тэкстаў выдаў летась Ігар Пракаповіч. Анатацыя пазначае, што яны маюць абстрактна-крытычны характар і жыццёва-філасофскі змест, а таксама — што кніга будзе цікавая ўсім, хто мае свой погляд на рэчаіснасць і навакольны свет. Цікавая заўвага, калі ўлічыць, што свой погляд мае кожная істота, надзеленая свядомасцю. Але справа ў тым, што аўтар анатацыі меў на ўвазе іншае, ужываючы таямнічы выраз «свой погляд». «Свой» — значыць непрымірэнчы да слабасці чалавека, «свой» — значыць хваравіта-крытычны, «свой» — значыць агрэсіўны, куслівы, калі, канечне, можна надзяліць такімі азначэннямі погляд. Усё гэта вынікае са зместу кнігі.

Ігар Пракаповіч, назбіраўшы за жыццё прыстойны багаж назіранняў за чалавечай прыродай, выбраў з яго ўсё самае чорнае і ўзнёс яго на «вышкі». Нельга адмовіць аўтару ў трапнасці, метафарычнасці, ёмістасці, якія часам выліваюцца ў афарыстычнасць. Свядома ці не, Ігар Пракаповіч наблізіў свае опусы да ніцшэанскіх выказванняў, якія апошні ўклаў у вусны Заратустры. Але набліжэнне гэтае — толькі вонкавае.

Вернемся да пачатку. Аўтар піша, што вышкі — гэта **літаратурныя** творы. Калі чуем слова «літаратура», мы адразу думаем пра мастацтва, а значыць, тое, што ляжыць у аснове ўсякай творчай дзейнасці чалавека: пра гуманізм. Ігар Пракаповіч, пагардліва звяртаючыся на «вы» да горшых прадстаўнікоў чалавецтва, выкрываючы іх заганы, усё далей і далей заглыбляецца ў змрок, і ўрэшце чытач губляе шлях, спыняецца і задае пытанне: а навошта гэта ўсё? Запытаюся і я: няўжо аўтар думае, што толькі ён адзін бачыць бруд пад сваімі нагамі? Канечне, ён так не думае: ён сам заклікае чытача да суаўтарства. Дык чаму ж мастацтва ператвараецца ў яго руках у выкрывальніцтва?..

У гэтым вялікі недахоп «Вышак» Ігара Пракаповіча: цені вымалеваны добра, а святла — няма. Чытач абавязкова адчуе, калі не зразумее, адсутнасць мастацкай вартасці, бо вартасць усё ж заключаная не ў адных назіраннях і кідкіх параўнаннях. Выбачайце мне гэтую метафарычнасць, але і назіранні, і параўнанні, і кантрасты, і правакацыі ды інш. — усё гэта толькі плады твора, у той час як корань яго — многа глыбей, і ён, як і ўсякі корань, нябачны.

Думкі, старанна сфармуляваныя аўтарам (гэта заўважна), зусім інакш маглі б гучаць з вуснаў героя рамана ці аповесці, злоснага на ўвесь белы свет. І вось у чым штука: гэтыя самыя аповесці, раманы і паэмы, якія Ігар Пракаповіч выправіў пыліцца на гарышча, пыліцца не будуць, бо ў іх ёсць святло, якое шукае нават самая маленькая, самая занядбаная душа. Пыліцца могуць — якая іронія — падобныя «Вышкі», пазбаўленыя спагады да чалавека. Пры тым што аўтар сам справядліва заўважыў: «Спагада жыве ў вялікіх, а не ў сплясканых галовах».

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Адкуль у Пашкова шабля?

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры вынайшаў новую (прынамсі, для Беларусі) форму працы — «Літаратурнае падарожжа». Форма, безумоўна, удалая: па-першае, творцы, якія выязджаюць у вялікі свет, нарэшце адарвуцца ад пісьмовых сталоў; па-другое, чытачы — а збольшага гэта настаўнікі, вучні сярэдніх школ, музейныя супрацоўнікі — могуць паглядзець на т. зв. «жывога пісьменніка». З'ява гэтая цікавая ў любым выпадку, незалежна ад якасці твораў і рэгалій аўтара. Асабліва ж цікава гэта дзецям, якія звыкліся ставіць паміж словамі «пісьменнік» і «нябожчык» знак роўнасці (у чым вялікая заслуга школьных падручнікаў, але пра гэта іншым разам). Гучыць не тое каб весела, але як ёсць.

Першае падарожжа спраўдзілася некалькі гадоў таму, а ў 2012 годзе быў распрацаваны адмысловы праект. Звычайна ўдзел у вандроўках бяруць «людзі пяра» — журналісты і пісьменнікі. Лічыцца, што іх такія падарожжы натхняюць на новыя творы. А ўзнікла ідэя дзякуючы журналістам Валянціне і Івану Ждановічам, якія абышлі па перыметры ўсю Беларусь. Прыклаў руку да праекта і Генадзь Пашкоў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, не толькі нястомны творца, але і падарожнік такі самы.

У сярэдзіне красавіка адбылася чарговая вандроўка — па Навагрудчыне. Выправіліся ў яе загадчык культурна-адукацыйнага аддзела згаданага музея Лідзія Шагойка і пісьменнікі Генадзь Пашкоў, Іна Фралова ды Анатоль Зэкаў. Натуральна, героем падарожжа стаў Адам Міцкевіч.

Першы пункт вандроўкі — Нягневіцкая СШ. Школа месціцца ў невялікім, быццам бы адарваным ад свету мястэчку, якіх у Беларусі безліч. Увогуле, месца тут каларытнае: некалі землі належалі шляхетнаму роду, як і мае быць, дасюль захаваліся паасобныя старыя дрэвы, густа ўсыпаныя гнёздамі варон. Каля школы — помнік рускім салдатам, расстраляным падчас Першай сусветнай вайны. Да ўсяго — дробны дождж і бяскрайнія голыя палі наводдаль, якія паўночнаму чалавеку, звыкламу да лясоў, падаюцца стэпамі.



Паслухаць мудрыя прамовы сталічных гасцей сабралася, здаецца, уся школа. Але дзіўна не гэта: дзеці слухалі так самааддана, што няёмка было перакінуцца словам з суседам. Калі ж сусед — Анатоль Зэкаў — прапанаваў дзецям пачытаць верш разам, выявілася, што яны цудоўна ведаюць мову (агучвалі вершыкі, пабудаваныя на супрацьпастаўленні беларускіх і рускіх слоў). Напрыканцы Генадзь Пашкоў выканаў ускладзеную на яго ганаровую місію: ад Саюза пісьменнікаў Беларусі ўручыў дырэктару Нягневіцкай СШ Г. А. Ісаенка дыплом за актыўную працу па прапагандзе беларускай літаратуры.

Зрэшты, здзівілі не толькі дзеці, але і дарослыя, якія глядзелі на творцаў з непадробнай пашанай. Лімаўца, які з рабамі пёраў бачыцца часцей, чым з роднай маці, гэта не можа не ўразіць. Як і саміх пісьменнікаў.

Наступны прыпынак — Навагрудак, дакладней, Дом-музей Адама Міцкевіча, дзе для гасцей правялі грунтоўную экскурсію.

Затым — музей-сядзіба Міцкевічаў «Завоссе», які з'яўляецца філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Каля дзвярэй гасцей сустракаў дырэктар музея-сядзібы Анатоль Еўмянькоў. Тут варта адзначыць, што на той момант шаноўныя госці ўжо добра ўдарожыліся. Але спадар Анатоль першым жа акордам развеяў сум і смутак. Такіх дырэктараў, мне думаецца, засталося мала. Вялікі энтузіяст — самае мяккае азначэнне. Відавочна, ён мае багаты досвед і цудоўна абазнаны ў гісторыі Беларусі, Рэчы Паспалітай, Вялікага Княства Літоўскага і ўвогуле нашай зямлі. І калі б у школах выкладалі гісторыю з такім запалам, гістфакі краіны займелі б жудасны конкурс!

Спадар Анатоль распавядаў пра Адама Міцкевіча, пра мясціны, дзе той нарадзіўся і дзе прайшло яго юнацтва, пра стасункі паэта з паненкамі і сябрукамі, пра варункі таго часу, пра іх наступствы ў часе сённяшнім і многае-многае іншае. Літпадарожнікі агледзелі аднаўлёную сядзібу: дом, гаспадарчыя пабудовы, лазню на беразе маляўнічага азярца. Канечне, нельга сказаць, што дом Міцкевіча быў менавіта такі: старая сядзіба згарэла, а аднаўлялі яе паводле па паэтычных ілюстрацыях з паэмы «Пан Тадэвуш». Галоўнае, што ўдалося ўзнавіць шляхетны дух. І няма ніякіх сумненняў, што падтрымлівае яго перадусім дырэктар Анатоль Еўмянькоў.

**P. S.** Яркім момантам экскурсіі і падарожжа па Навагрудчыне сталася пераўвасабленне пісьменніка Генадзя Пашкова ў бравага шляхціца пры шаблі і ганары, якое вы можаце бачыць на фота.

**Анастасія ГРЫШЧУК,**
**фота аўтара**

# Фальклор: тэорыя і практыкі

У Мінску прайшла VIII Міжнародная навуковая канферэнцыя «Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання». Арганізатар гэтага традыцыйнага форуму — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Падчас канферэнцыі з дакладамі выступілі аўтарытэтныя навукоўцы з Расіі, Славакіі, Латвіі, Кітая, айчынныя даследчыкі. Адбыліся канцэрты «Фальклор беларускай глыбінкі», «Традыцыі і пераемнікі», майстар-класы вядучых спецыялістаў у галіне даследавання фальклору.

Мэта канферэнцыі — прадэманстраваць сучасны стан беларускай фальклarystыкі не толькі як тэарэтычнай, але і як практычнай дысцыпліны. Праблематыка дакладаў закранула шматлікія сферы даследаванняў: вывучэнне нематэрыяльнай культурнай спадчыны, выкарыстанне набыткаў народнай культуры ў адукацыйнай прасторы, праблемы народных спеваў і этнаінструментазнаўства. А спецыяльнай тэмай сёлетняй канферэнцыі з нагоды святкавання 100-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Куляшова стаў унёсак роду Куляшовых у вывучэнне і папулярызацыю фальклору.

Падчас прэзентацыі аўтэнтычных калектываў «Фальклор беларускай глыбінкі» сталічныя слухачы мелі магчымасць пачуць «аўтэнтычны гук» беларускіх этнаграфічных рэгіёнаў Падзвіння і Прыбужжа. Гэтым разам у камернай зале ўніверсітэта культуры выступалі дзіцячы фальклорны танцавальны калектыў «Катрынка» з горада Высокае Камянецкага раёна і аўтэнтычны спеўны гурт «Матырынская спадчына» вёскі Матырына Ушацкага раёна. Рэпертуар старэйшых выступоўцаў пераважна складаўся з цыкла каляндарна-абрадавых песень і побытавых танцаў, у той час як выхаванцы Цэнтра дадатковай адукацыі г. Высокае дэманстравалі стылізаваныя пад эстрадныя варыянты як народных спеваў, так і танцавальных. Але рабілі гэта шчыра, і адчувалася, што за аснову ўзяты менавіта першасныя формы фальклору, крыху «прыпраўленыя» акадэмічнымі формамі харэаграфіі і вакальнага выканальніцтва.

Багатая праграма была запланавана на майстар-класы. Прафесар Расійскага інстытута гісторыі мастацтваў, што ў Санкт-Пецярбургу, Ігар Мацiеўскі вызначыў механізмы вырашэння экапсіхалагічных праблем традыцыйнага вакальнага і інструментальнага музіцыравання на практыцы, прадэманстраваў інавацыйную методыку працы з асобамі, не знаёмымі з асновамі музычнай тэорыі, і правёў паралелі з навучаннем музыцы метадам аўдыявізуальнага перайманія, характэрнага для фальклорнай музыкі. Алесь Жура, вядомы майстар музычных інструментаў і выканаўца, які стаяў каля вытокаў адраджэння дударскага руху Беларусі, распавёў пра свае ўласныя напрацоўкі ў традыцыйным музіцыраванні на дудзе, крытычна прааналізаваў сучасны стан вырабу і вызначыў хібы і станоўчыя вынікі рэвіталізацыі гэтага інструмента.

Кіраўнік гурта «Катрынка» Ларыса Лізякіна пры падтрымцы сваіх навучэнцаў пазнаёміла прысутных якраз з неапрацаванымі варыянтамі танцаў Прыбужжа, далучыўшы да танцаў і наведвальнікаў, і выступоўцаў майстар-класаў. Лідар гурта Maskačkas spēlmaņi Анс Берзінь распавёў пра музычную культуру Латгаліі і беларуска-латвійскага пamежжа, пасля чаго працягнуў танцавальную тэматыку. Адначасова граючы акампанемент на гармоніку і паказваючы той ці іншы танец, Анс апантана навучаў наведвальнікаў майстар-класаў латышскай народнай харэаграфіі, якая мае шмат агульнага з беларускай.

А вось на прэзентацыі традыцыйнай культуры ў маладзёжных асяродках «Традыцыі і пераемнікі» Берзінь прадэманстраваў ігру на гуслях і спевы, замацаваўшы поспех майстар-класаў. Гурт «Калыханка» Ларысы Рыжковай, які ў гэтым годзе адзначае 25-гадовы юбілей, у чарговы раз парадаваў яскравым выступленнем дзяцей. Адмыслова для ўдзелу ў імпрэзе сабраўся гурт, у які ўвайшлі Яўген Барышнікаў, Стась Чавус, Алесь Жура і Дзяніс Сухі. Хлопцы зухавата выканалі некалькі найгрышаў на дудах, скрыпках, бубне і нават балалайцы, стварыўшы магічную тканіну з музыкі, якая зачаравала публіку. Выступілі калектывы кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ «Этнасуполка» пад кіраўніцтвам Тацціны Пладуновай, «Вяснянка», «Страла» пад кіраўніцтвам Эвеліны Шчадрыной, «Раме» і зборны калектыў «Талака» пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры Вячаслава Калацэя. Гучалі дуды, барабаны, скрыпкі, дыятанічныя цымбалы і, канечне, спевы. Вядучыя замежныя і айчынныя навукоўцы-ўдзельнікі, наведвальнікі канферэнцыі высока ацанілі мастацкі ўзровень перайманія і выканальніцтва традыцыйнай беларускай музычнай культуры. Гурт «Ветах», адзін са старэйшых беларускіх калектываў дударскай і смыковай музыкі, паставіў яскравую кропку ў фінале імпрэзы, далучыўшы гледачоў да дзеі, што адбывалася на сцэне, праз візітку Беларусі — рытуальны танец «Лявоніха».



*Лідар гурта Maskačkas spēlmaņi Анс Берзінь.*

Сёлетняя канферэнцыя была багатая не толькі на колькасць фальклarystаў-навукоўцаў, але і на колькасць практыкаў — спевакоў і музыкаў. Арганізатары форуму здолелі замацаваць лепшыя напрацоўкі мінулых гадоў і зладзіць усе мерапрыемствы на высокім узроўні. Яны праходзілі пры поўных аўдыторыях і канцэртных залах. Гэта сведчыць і пра цікавасць сталічнай публікі да народнай культуры.

**Вячка КРАСУЛІН,**
**фота аўтара**

# Ключы ад вясны

Адзначэнне старадаўніх свят беларускага календара ў новым сучасным фармаце становіцца добрай традыцыяй. Так, у сталічным клубе *Re:public* з нагоды вясновага Юр'я сабраўся фольк-бамонд. "Таўкачыкі на Юр'я" ў адной канцэртнай прасторы аб'ядналі фольк-музыкаў розных кірункаў, традыцыйных аўтэнтычных выканаўцаў з беларускай глыбінкі, а таксама зацікаўленых слухачоў, танцораў і саўдзельнікаў святкавання.

Падавалася б, вясновае свята ў гонар бога Ярылы, калі адмыкаецца зямля, на вуліцы становіцца цёпла, а сяляне традыцыйна ўпершыню ў новым годзе выганяюць кароў у поле, варта было б адзначыць фэстам на адкрытай пляцоўцы. Ды клубны фармат, амаль камерная абстаноўка святкаванню «Таўкачыкаў на Юр'я» аніяк не зашкодзілі. Хутчэй, наадварот. Менавіта такім чынам кожны ўдзельнік канцэрта і наведвальнік імпрэзы змог далучыцца да старажытнага абраду, пакаштаваць адмысловага каравая, што спяклі ў сялянскай печы і прывезлі ў сталіцу спявачкі з гурта «Глыбокія крыніцы» вёскі Закальное Любанскага раёна. Менавіта выступленне гэтых традыцыйных выканаўцаў, якія заспявалі песні і паказалі частку юр'еўскага абраду, можна лічыць сапраўднай кульмінацыяй святкавання. Публіка іх вітала, падтрымлівала і доўга не адпускала са сцэны.

На ўзроўні прайшлі і выступленні іншых удзельнікаў свята. Дарэчы, асаблівы каларыт імпрэзе надала задумка Юрыя Выдронка, арганізатара фэсту, лідара праекта «Юр'я», кожнаму з гуртоў, што выходзілі на сцэну, уручаць своеасаблівую ўзнагароду ў пэўнай намінацыі. Драўляныя ступкі — мініяцюрныя сімвалы свята — станнуць для іх і выдатным напамінкам пра цёплы вечар, і нагодай парадавацца ўвазе з боку калег. А ўзнагароджваць і сапраўды было за што. Гурт «Альтанка», Маша Яр і «Хоха бэнд», праекты «Бай край», «Дзівасіл» прадставілі выдатныя кампазіцыі, у межах якіх традыцыйныя фальклорныя элементы спалучаюцца з сучаснымі музычнымі кірункамі. «Літы талер» застаўся верны свайму сярэднявечнаму рэпертуару, а «Ветах», «Талака» і Наталля Матыліцкая прадставілі выдатныя песні і танцы ў рэчышчы постфальклору.

Разынкай вечарыны можна лічыць і выступленне хэдлайнераў фэсту — фольк-рок гурта «Юр'я». Нельга сказаць, што сёння музыкі актыўна выступаюць на канцэртных пляцоўках краіны, таму іх кампазіцыі сталі яркім завяршэннем вечара і выдатным падарункам для шчырых аматараў творчасці гэтага незвычайнага гурта.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Эксперымент? Класіка!

Фота Кастуся Дробава



Дзмітрый Макараў і Міхаіл Баразна падчас пасяджэння журы міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

## ГОНКА ЗА ЛІДАРАМ

Па традыцыі перад працэдурай галасавання кожны з сяброў журы праводзіць кароткую прэзентацыю тых выданняў, што на конкурсе прадстаўляюць яго родную краіну. Так, Чынгіз Аліаглы, распавядаючы пра лепшыя выданні Азербайджана за 2013 год, звярнуў увагу прысутных на кнігу «Вавёрка піша сачыненне»:

— Гэты праект адпавядае мэце нашага конкурсу — спрыяць умацаванню сувязей паміж выдаўцамі, культурамі нашых краін, — падкрэсліў спадар Чынгіз. — Аўтарам кнігі «Вавёрка піша сачыненне» з'яўляецца беларускі пісьменнік Алесь Карлюкевіч. Аформіў выданне беларускі мастак, а ў перакладзе на азербайджанскую мову яна пабачыла свет у нашым выдавецтве «Тэхсіл».

Дарэчы, забягаючы наперад, адзначу, што гэтаму выданню журы прысудзіла дыплом II ступені ў намінацыі «Кніга для дзяцей і юнацтва». А пра будучага лаўрэата конкурсу ў намінацыі «Садружнасць», уладальніка дыплома III ступені з пазнакай «За сувязь паміж пакаленнямі кніжнікаў і пераемнасць традыцый» распавёў Аляксандр Варапаеў.

— Праца В. Саланенкі, што пабачыла свет у маскоўскім выдавецтве «Арт-Валахонка» «Конкурс «Мастацтва кнігі 1958 — 1997» — гэта не проста каталог, гэта расповед пра конкурс, яго гісторыя. Тут можна знайсці звесткі пра тое, хто ўваходзіў у журы, быў заснавальнікам, якія кнігі прадстаўляліся. Выданне знаёміць з гісторыяй конкурсу пачынаючы з 1958 года, калі ён толькі задумваўся. Гэта поўнае бібліяграфічнае апісанне абсалютна ўсіх кніг-удзельнікаў спаборніцтва, фотаздымкі вокладак практычна ўсіх кніг-дыпламантаў. Больш за тое, выданне дапаўняецца расповедамі пра мастакоў, якія працуюць у кніжнай графіцы, іх біяграфіямі.

Аляксандр Мікалаевіч выказаў прапанову падумаць пра распрацоўку падобнага выдання, але прысвечанага ўжо новаму конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД, які сёлета адзначае сваё 10-годдзе.

## ТЭНДЭНЦЫІ І НАВАЦЫІ

Такое моцнае прадстаўленне вынікаў нацыянальнага кнігавыдання за год можа дапамагчы не толькі адзначыць лепшыя праекты і напрацоўкі, але і вызначыць асноўныя тэндэнцыі, што назіраюцца ў кніжнай справе ў краінах СНД. Рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства Міхаіл Баразна заўважыў:

— Незалежна ад таго, што хутка мы будзем святкаваць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, падкрэслю, што кніжная справа і мастацтва афармлення кнігі — рэч вельмі кансерватыўная, а самыя авангардныя эксперыменты галіна перажыла ўжо стагоддзі таму. Кнігі былі паўкруглыя, радкі ўтваралі мудрагелістыя формы, шрыфт быў чорным, сінім, рознакаляровым. Кніга — з'ява кансерватыўная, але яна ўвесь час знаходзіцца ў эксперыментальным пошуку. Калі казаць пра новыя тэндэнцыі, то адчуваецца вяртанне да традыцыі малявання, а кнігавыдавецкая справа сёння — клопат не толькі мастака, дызайнера, паліграфіста, але і навукоўца, даследчыка. У апошнія дзесяцігоддзі вельмі заўважная тэндэнцыя да складання даследаванняў, прысвечаных розным аспектам кнігавыдання. У такіх працах прыводзіцца шмат ілюстрацый, архіўных дакументаў, спасылак, факсімільных рэпрадукцый, складаных паліграфічных форм апрацоўкі аркушаў, сама ж кніга ўключае некалькі элементаў. У прыватнасці, сёлета на конкурсе прадстаўлена кніга-трансформер, зробленая з выкарыстаннем шоўку і шаўкаграфіі. Само выданне дае магчымасць зрабіць шмат варыяцый інсталяцый, якія можна выбудоўваць дома і на вітрыне ў кнігарні.

Разам з тым каштоўнасць кнігі не губляецца: падбор ілюстрацый, удумлівых тэкстаў, шрыфту застаецца якасцю выдання. Яшчэ адна тэндэнцыя — прага да публікацыі дакументаў, архіўных матэрыялаў. І вельмі прыемна, што з'явілася выданне, якое падводзіць вынікі такой вядомай з'явы, як конкурс «Мастацтва кнігі СССР». Было вельмі прыемна зноў пабачыць прозвішчы беларусаў, што атрымлівалі вышэйшыя ўзнагароды такіх конкурсаў. Гэта таксама частка нашай вялікай культуры. Мастакі сцвердзілі, што іх праца — не проста частка перыяду, рэгламентацыя мастацкага жыцця, але з'ява, і з цягам часу іх аўтарытэт у прафесійных колах ніякім чынам не пацярпеў.

## ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ

Натуральна, самым чаканым момантам кожнага конкурсу з'яўляецца аб'яўленне вынікаў. Зазначу, што сёлета Гран-пры выправіцца ў Расію. Гэтую высокую ўзнагароду заслужана атрымае кніга-трансформер, аформленая ў тэхніцы шаўкаграфіі, — выдатны альбом Вадзіма Гіпенрэйтэра «Запаведная краіна».

Варта адзначыць, што і беларускія выданні, як заўсёды, былі на вышыні. На рахунку нашых выдаўцоў — 9 узнагарод у розных намінацыях. У іх ліку дыплом лаўрэата ў намінацыі «Гран-пры» за рэалізацыю праекта «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» (выдавецтва «Чатыры чвэрці»). Дарэчы, два дыпломы прысуджаны Выдавецкаму дому «Звязда». Пераможцам у намінацыі «Садружнасць» стала камплектнае выданне з 11 кніг серыі «Сугучча сэрцаў». А дыплом І ступені ў намінацыі «Перамога» атрымае кніга Галіны Сарынка і Сяргея Лапарова «Партызанская зброя». У гэтай жа катэгорыі дыплом ІІ ступені прысуджаны праекту Віктара Ермаловіча «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны. 1941 — 1945», што выйшаў у выдавецтве «Беларусь».

Спецыяльны дыплом у намінацыі «Дыялог культур» выправіцца ў полацкае Выдавецтва Спаса-Ефрасіннеўскага жаночага манастыра. Журы ўразіла кніга «Акафіст прападобнай маці нашай Ефрасінні, княжне Полацкай». Дыплом ІІІ ступені ў намінацыі «Мая краіна» прысуджаны кнізе Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча «Скарбы Беларусі» выдавецтва «Чатыры чвэрці». У ліку лепшых кніг для дзяцей і юнацтва— праект выдавецтва «Кніжны Дом» «Новыя прыгоды Дэніка» папулярнага дзіцячага пісьменніка Віктара Ляскоўскага. Ён атрымае дыплом ІІІ ступені. Лаўрэатам дыплома ІІ ступені ў намінацыі «Арт-кніга» стане сумеснае выданне Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і выдавецтва «Калекшн» «Кніжная спадчына Францыска Скарыны», а лепшай работай у катэгорыі «Аддрукавана ў садружнасці» названы праект С. Лявонцевай і Г. Нячаевай «Кніжная культура. Ветка», што быў падрыхтаваны выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» і надрукаваны на Падольскай фабрыцы афсетнага друку.

Свае ўзнагароды выдаўцы атрымаюць толькі ўвосень, падчас XXVII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Там жа можна будзе пабачыць і ўсе выданні-лаўрэаты XI Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД — у межах экспазіцыі Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі. Акрамя таго, лаўрэаты конкурсу будуць прадстаўлены на Днi беларускага пісьменства ў Заслаўі. Затым гэтыя адметныя выданні папоўняць кніжны фонд Музея гісторыі СНД у Мінску.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

### Унікальны праект

# Сам-насам з зямлёй

Фота Кастуся Дробава



Армен Сардараў і Навум Гальпяровіч прадстаўляюць сумеснае выданне — альбом «Маці-зямля».

Альбомам фотаздымкаў прыгожых пейзажаў, дапоўненых выдатнымі паэтычнымі радкамі, здаецца, сёння нікога і не здзівіш. Ідэя не новая. Было. Можна сабраць цэлую падборку такіх выданняў. Але творчы тандэм у складзе паэта Навума Гальпяровіча, фотамастака Армена Сардарава, дызайнера Уладзіміра Шолка і выдавецтва «Пачатковая школа» здзейсніў амаль немагчымае. Іх новая кніга «Маці-зямля» сапраўды здзіўляе, зачароўвае, прымушае задумацца. Прэзентацыя гэтага ўнікальнага праекта прайшла ў сталічным Доме дружбы.

— У цэлым не вельмі арыгінальны прыём — спалучаць паэтычныя радкі з прыгожымі пейзажамі, — зазначыў падчас імпрэзы паэт Навум Гальпяровіч. — Але новы альбом «Маці-зямля» адметны тым, што тут нішто не з'яўляецца ілюстрацыяй. Вершы не выступаюць у якасці ілюстрацый, і здымкі не распавядаюць тое, пра што аўтар піша ў вершах. Гэта сімфонія, своеасаблівы гімн роднай зямлі. Зрэшты, гэта пачуццё любові кожнага з аўтараў да Беларусі. Армен Сяргеевіч праз аб'ектыў фотакамеры ўглядаецца ў кожную кветачку ці каменьчык на зямлі, а вершы носяць больш агульны характар, яны кажуць пра пачуцці. І ўсё гэта спалучаецца ў вялікае і шчырае прызнанне ў любові да роднага краю.

Падчас імпрэзы наведвальнікі маглі не толькі паслухаць выдатныя вершы Навума Гальпяровіча, пагартаць і набыць кнігу, але і на адмысловай выстаўцы пазнаёміцца з фота Армена Сардарава, што ўвайшлі ў альбом. На здымках — своеасаблівы падыход мастака. Гэта позірк на зямлю, не зверху, з вышыні ўласнага росту, але бачанне і вобразы, што ўзнікаюць падчас паклону: заўважаецца і зварот аўтара да зямлі, і яго ўвага да дробных дэталяў.

— Для любой асобы самы блізкі чалавек — маці, але мы ўсе маем агульную маці. Гэта маці-зямля. Кепска, што мы не клапоцімся пра яе, — патлумачыў сваё бачанне работы Армен Сардараў. — Зямля нараджае, дае жыццё ўсяму свету. Але толькі ў ХХ ст. мы пачалі задумвацца пра тое, што робім. Сёння гэта вельмі важна. Я маю на ўвазе не толькі клопат пра прыроду і наваколле, але і пра магчымасць вучыцца ў нашай зямлі. У кожнай расліне, у кожным куточку ёсць нешта такое, што мае свой колер, кампазіцыю, валодае адметнымі рысамі. І гэтая найвышэйшая прыгажосць, на мой погляд, — вялікая крыніца натхнення.

Думаецца, альбом можа стаць дапаможнікам па выхаванні любові да роднай зямлі, яе прыроды, да ўсяго прыгожага. Зрэшты, выдатным сродкам для медытацыі халодным зімовым вечарам ці спякотным летнім днём.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Валянціна

## РАЗДЗЕЛ З КНІГІ «ЖАНЧЫНЫ Ў ЖЫЦЦІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА»

У 2012 годзе ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» выйшла мая кніга "Донжуанскі спіс" Караткевіча", прысвечаная жанчынам, якія паўплывалі на жыццё і творчасць нашага класіка. Новыя звесткі падштурхнулі да падрыхтоўкі другога выдання. Але тэкст павялічыўся на трацiну, а шэраг раздзелаў быў грунтоўна перапрацаваны. Так паўстала другая кніга, якая называецца «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча». Яна ўжо падрыхтавана да друку ў «Чатырох чвэрцях» і неўзабаве павінна пабачыць свет. 176 старонак, каляровая ўклейка з фотаздымкамі (некаторыя ніколі не друкаваліся). Калі ў першым выданні ішла гаворка пра 10 жанчын, дык цяпер — пра 13. Але галоўнае, што новае выданне ўтрымлівае шмат новых звестак. Прапаную чытачам «ЛіМа» ўрывак з кнігі: скарочаны варыянт раздзела, прысвечанага Валянціне Караткевіч, жонцы пісьменніка.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Фота Сяргея Панізніка



*Злева направа: Міхась Забэйда-Суміцкі, Валянціна Караткевіч, Уладзімір Караткевіч, Вацлаў Жыдліцкі. Прага. 1972.*

У 1967 годзе пісьменнік пазнаёміўся з Валянцінай Нікіцінай (дзявочае прозвішча Ватковіч). Яна нарадзілася 28 чэрвеня 1934 года ў Кыргызстане. Пра яе дзяцінства аўтару расказала Любоў Пятроўна Рабушка, якая вучылася з будучай жонкай Караткевіча ў адным класе.

«Валянціна Ватковіч, яе брат Генадзь і маці прыехалі ў Радашковічы пасля вайны, дзесьці ў 1946 — 1947 гадах, — узгадвае Любоў Пятроўна. — Яна прыйшла да нас у пяты клас. Маці Валянціны спачатку працавала ў пракуратуры. У адным доме знаходзіліся рэстаран, пракуратура і аднапакаёвая кватэра Ватковічаў. Аднойчы ноччу ў рэстаране выбухнулі газавыя балоны, і ўвесь будынак загарэўся. Туды збегліся суседзі. Да дома, які гарэў, было страшна падысці. Побач стаялі напаўапранутыя Валянціна і яе брат, якія трымцелі ад холаду і страху. Потым ім далі новую кватэру. Але ў маці не было спецыяльнай адукацыі, таму хутка яна апынулася на пасадзе загадчыцы клуба.

Валя вельмі вылучалася сярод нас усіх. З першага дня знаёмства адчувалася, што яна была нейкай асаблівай, натхнёнай, вельмі развітай і адукаванай. Яе галоўным, ды, напэўна, і адзіным хобі было чытанне. Яна так захаплялася, што яе нельга было адарваць ад кніг. Калі мы толькі пачыналі знаёміцца з класікай, яна чытала ўсё — і замежную, і рускую літаратуру. На сумных уроках трымала кнігі пад партай.

Першыя гады ў школе Валянціна вучылася сярэдне — на «тры» і «чатыры». Магчыма, прычына хавалася ў звычайных, нават сярэдніх настаўніках. Але потым нашым класным кіраўніком стаў Фёдар Янкоўскі, будучы вядомы вучоны, мовазнаўца, які выкладаў у нас беларускую мову і літаратуру. Мы ўсе падцягнуліся, прычым Янкоўскі рабіў заўвагі і даваў парады вельмі тактоўна. Ён выкладаў у нас у дзявятым і першай палове дзясятага класа, а потым з'ехаў у Мінск. Але за гэты час Валянціна падцягнулася. Усе думалі, што яна скончыць школу з медалём. Прычым не адна яна. У аблана паслалі дадзеныя на двух залатых і пяцёх сярэбраных медалістаў. Але там не маглі паверыць, што ў звычайнай школе можа быць такі высокі ўзровень. Таму на клас выдзелілі толькі два сярэбраныя медалі. І Валянціна засталася без яго».

Пасля заканчэння школы Валянціна паступіла на гістарычны факультэт БДУ. У 1956 годзе скончыла яго, працавала ў краязнаўчых музеях: раённым Аршанскім і абласным Брэсцкім. У тыя гады яна ўзяла шлюб, але неўзабаве развялася. Прозвішча Нікіціна яна захавала. Але пра свайго першага мужа імкнулася нічога не згадваць.

Потым Валянціна паступіла ў аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Археолаг Міхась Чарняўскі, які вучыўся там разам з Валянцінай, згадваў, што над сваім даследаваннем яна працавала ў Маскве. «Яна там была два гады, пісала дысертацыю, ну і стала адчуваць сябе трошкі масквічкай. Ну, а мы тут такія, правінцыя. І гэта ў яе трошачкі так праслізгвала ў размовах, адносінах. І наша начальства яе тут незалюбіла. Хаця яна дысертацыю ўжо зрабіла амаль што, назад яе не ўзялі — не трэба нам тут такая ганарыстая. Хай едзе, дзе была. І яна страшэнна забітая гэтым, што трэба ехаць у Брэст».

Якраз у 1964 годзе ў часопісе «Маладосць» выйшла аповесць Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». А Валянціна Браніслаўна вельмі любіла дэтэктывы. «І я кажу: слухай, я табе дам такі дэтэктыў, такі дэтэктыў, — успамінаў Міхась Чарняўскі.<…> — Я кажу — во дэтэктыў, каб, можа, на душы лягчэй было. Яна як села, дык аж да Брэста яго чытала».

У наступным, 1965 годзе Валянціна Браніславаўна абараніла кандыдацкую дысертацыю па археалогіі (дакладней, па паморскай культуры). Аднак вымушаная была працаваць у Брэсцкім педінстытуце на кафедры гісторыі КПСС. Пазней, тлумачычы гэту сітуацыю, Валянціна Нікіціна казала: «Захочаш есці — будзеш і такое выкладаць».

Наконт абставін знаёмства Валянціны і Уладзіміра існуе тры версіі. Згодна з першымі дзвюма (версіі Адама Мальдзіса і Міхася Чарняўскага), яно адбылося 2 лістапада 1967 года ў Брэсцкім педінстытуце. А вось тэатразнаўца Ізабела Гатоўчыц, грунтуючыся на ўспамінах Валянціны, пісала, што сустрэча адбылася ў цягніку Берлін — Масква. Будучыя муж і жонка ехалі ў адным купэ да Брэста. Прычым неўзабаве пасля знаёмства пісьменніка запрасілі на сустрэчу ў Брэст (відаць, менавіта пра яе вядуць гаворку А. Мальдзіс і М. Чарняўскі).

Любоў Рабушка таксама расказвала са слоў Валянціны, што сустрэча адбылася ў Брэсце на чытацкай канферэнцыі. І пазнаёміў іх Уладзімір Калеснік. «Думаю, што Валя спадабалася яму з першага погляду, таму ён і запрасіў яе», — кажа Любоў Пятроўна. Таму гэтая версія падаецца больш грунтоўнай.

У любым выпадку Валянціна прыняла запрашэнне Караткевіча. Яны разам паехалі на вяселле літаратуразнаўцаў Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай, што цэлы тыдзень праходзіла ў Ракаве на лістападаўскія святы (адзначалася 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі). Першая рэакцыя некаторых знаёмых была не надта тактоўнай. Некаторыя «максімалісты» сказалі Валянціне за сталом прама ў вочы: «Раз дрэнна гаворыш па-беларуску, то ты яму не пара». Для аб'ектыўнасці трэба сказаць, што неўзабаве Валянціна Нікіціна вывучыла беларускую мову, прычым, паводле слоў А. Мальдзіса, стала размаўляць на ёй лепш за сваіх нядаўніх крытыкаў.

Але больш істотна было тое, што паміж Уладзімірам і Валянцінай расла ўзаемная сімпатыя. Вестка пра тое імгненна абляцела вузкае кола нацыянальнай інтэлігенцыі. 20 снежня 1967 года Ларыса Геніюш піша ў лісце да Зоські Верас: «Валодзя, здаецца, жэніцца на нейкай выкладчыцы з Брэсцкага пед Інстытута. Яна 5 дзён гасціла ў іх… Не веру таму Валодзі, цяжкая з ім гутарка ў гэтай справе». А 3 студзеня 1968 года да Ларысы Геніюш прыходзіць ліст ад Максіма Танка: «Сустрэў Калесніка, ад якога і даведаўся, што Уладзімір закахаўся ў Брэсце ў харошую дзяўчыну». 12 лютага 1968 года Геніюш зноў піша з Зэльвы Зосьцы Верас: «Зусім цёпла пагутарылі з дзяўчынай Караткевіча. Яна ад іх ужо паехала, але прыслала мне пачку дэтэктываў, і відно, што ёй, беднай, нявесела… Што ў іх атрымаецца, не ведаю».

Паколькі закаханым хацелася бачыцца часцей, Валянціна вырашыла перабрацца ў Мінск. Спярша паспрабавала ўладкавацца ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук, але туды яе не ўзялі. Тады Караткевіч парушыў свой прынцып (ні за каго не прасіць) і дапамог уладкаваць Валянціну ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Таму летам 1969 года яна пераехала ў Мінск. Два гады таму Караткевіч атрымаў двухпакаёвую кватэру на вуліцы Веры Харужай, 48. Менавіта тут Уладзімір Сямёнавіч пасяліў Антона Космiча, галоўнага героя рамана «Чорны замак Альшанскі» (1979). Гэтую кнігу аўтар прысвяціў Валянціне: «В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю». Прычым сам Уладзімір Сямёнавіч жартоўна прызнаваўся, што паабяцаў ёй напісаць дэтэктыўны твор у першы дзень знаёмства.

Калегі запомнілі Валянціну «блакітнавокай у акулярах бландзінкай, крыху паўнаватай, але зграбнай, у маленькай чорнай класічнай сукенцы, якая ёй вельмі пасавала». Справай яе прафесійнага жыцця стаў удзел у стварэнні «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Як пісаў Адам Мальдзіс, тое, што зрабіла Валянціна Браніславаўна для падрыхтоўкі «Збору…», для таго, каб «ён ішоў «без купюр», можна смела назваць навуковым подзвігам, грамадзянскай мужнасцю. Яна бясконца ездзіла ў экспедыцыі, абараніла не адзін помнік архітэктуры, пісала сама артыкулы і брашуры і рэдагавала чужыя». За гэтае выданне ў 1990 годзе разам з іншымі аўтарамі Валянціна Караткевіч (пасмяротна) была ўзнагароджана Дзяржаўнай прэміяй БССР.

Пасля пераезду ў Мінск Валянціна жыла ў сям'і пісьменніка. Але з Уладзімірам яна не распісвалася. Шлюб, які «цягнуўся ўжо некалькі гадоў», быў зарэгістраваны толькі 19 лютага 1971 года. Валянціна, якая ўзяла прозвішча мужа, абмяняла сваю двухпакаёвую кватэру ў Брэсце на пакой у Мінску. Праз два гады гэты пакой разам з двухпакаёвай кватэрай Караткевіча па вуліцы Веры Харужай, 48 абмянялі на трохпакаёвую кватэру (па вуліцы Карла Маркса, 36). Там Валянціна, Уладзімір і маці пісьменніка жылі да сваіх апошніх дзён.

Як пісаў Адам Мальдзіс, у новай кватэры ў пісьменніка нарэшце «з'явіўся асобны кабінет для работы. Ажаніўшыся, Караткевіч стаў часцей адпачываць — у сваім любімым Кактэбелі, а таксама ў Гаграх, Дубултах. Хоць і ўсялякае бывала ў жыцці, Караткевіч быў удзячны жонцы за яе паўсядзённыя клопаты».

Але чаму шлюб быў зарэгістраваны не адразу? «Валодзя тады збіраўся ў Славакію, дзе перавялі яго кнігу, — кажа Любоў Рабушка. — Хацеў узяць з сабой і Валянціну. Але калі сталі афармляць дакументы, паўстала пытанне: а які яе статус? Тады яны пайшлі і адразу распісаліся. Чаму гэта не зрабілі раней? Што тычыцца Караткевіча, дык адназначна адказаць складана. Адносна Валянціны, мяркую так. Яна вельмі яго любіла. А яшчэ мела перадавыя погляды. Таму не лічыла прынцыповым — іх адносіны афіцыйна зафіксаваныя ці не. Галоўнае — разам».

Зразумела, вобраз Валянціны прадстаўлены ў мастацкай літаратуры дастаткова сціпла. Са значных твораў пісьменнік прысвяціў ёй толькі раман «Чорны замак Альшанскі». Але мяркую, што Караткевіч нарэшце знайшоў у Валянціне свой ідэал і асабістае шчасце. Як вядома, існуюць жонкі пісьменнікаў рознага тыпу. Адны не прэтэндуюць на першыя ролі, займаюцца гаспадаркай, дзецьмі, перадрукоўваюць тэксты. Але некаторым творцам патрэбны побач чалавек, роўны яму. І зразумела, калі муж і жонка — творчыя людзі, нікому не хочацца сыходзіць у цень.

Дарэчы, у рэшце рэшт Валянціну Браніславаўну прыняло і бліжэйшае атачэнне пісьменніка. 5 ліпеня 1971 года Ларыса Геніюш пісала Раісе Жук-Грышкевіч: «Валя цудоўная як гаспадыня хаты. Гасцінная, мілая, вельмі культурная і даволі абаяльная, прыгожая. <…> Валя здзівіла мяне, бо гутарыць цяпер выключна на роднай мове».

Валянціне і Уладзіміру было адмерана крыху больш чым дзесяцігоддзе сямейнага шчасця. «Усю душу Валянціна аддавала навуцы і Караткевічу. Жыла яго справамі і творамі, яго працай, даглядала яго маму», — успамінала Любоў Рабушка. Пра ўзаемаадносіны Валянціны і Уладзіміра сведчыць той факт, што пісьменнік цяжка перажываў хваробу жонкі. 8 ліпеня 1982 года, калі стан здароўя Валянціны Браніславаўны пагоршыўся і яе забралі ў шпіталь, Караткевіч напісаў верш «Ў бездарожжа для тых, каму шчасціць…». Стаўленне да жонкі бачна ўжо ў аўтарскай пазнацы: «Свет повен мною, як шар зямны вадою. // А я не магу падаць табе глытка вады».

Нарэшце, сам верш:

*Ў бездарожжа для тых, каму шчасціць,*
*Дагарае ўначы маё сэрца…*

*Ты дала мне імгненнае шчасце,*
*Я табе даў за гэта бяссмерце.*

*І калі ты падзякаю, болем,*
*Азарыла мне прорвы сусвету,*
*Я сказаў:*
*«Больш, напэўна, ніколі*
*Мы на свеце не ўбачымся гэтым».*

*І табе — хай нас людзі рассудзяць —*
*Я зайздроснай аддзякую доляй:*
*Ты — ніколі — мяне не забудзеш.*
*Ты мяне не ўбачыш ніколі.*

*Ў ноч самоты, і ў цемры магілы*
*Будзе смага адна тваёй доляй:*
*Ты забыць мяне будзеш не ў сілах,*
*І са мною… ніколі.*
*Ніколі.*

«Калі Валянціна захварэла, я наведвала яе ў Бараўлянах, — расказвала Любоў Рабушка. — Яна мужна пераносіла свае пакуты. Ведала свой дыягназ, але трымалася малайцом». 28 лютага 1983 года Валянціна Браніславаўна пакінула гэты свет. 25 ліпеня 1984 года Уладзімір Сямёнавіч рушыў услед за ёй.

Ужо пасля смерці Валянціны ўкраінскі пісьменнік Мікалай Амельчанка «спытаў у Валодзі, якой усё-ткі была яго жонка, бо сам Валю так і не ўбачыў. І ён адказаў сумна, крыху падняўшы галаву, гледзячы ў цёмнае неба, нібыта дзесьці там, у невядомай вышыні, убачыў яе:

— Яна не была прыгажуняю, але валодала дзіўнай духоўнай абаяльнасцю. Яна была каралевай духоўнасці...»

# Планета детей

Мне 4 годика, у меня круглые щёки, почти как у хомяка, хрюшкин нос, две непослушные косички, которые каждое утро заплетает мама и почему-то вздыхает… Наверное, боится, что я снова сбегу из детского садика. Почему? Да не нравится мне там! Все игрушки друг у друга забирают, подушками бросаются, хнычут без повода. А я люблю тишину и читать, закутавшись в одеяло. Родители говорят, что вырасту очень умной. А хочется ещё и красивой стать… Задумывались ли вы когда-нибудь, что дети думают, как взрослые, только не умеют высказывать свои мысли? Хорошие писатели знают, что каждый ребёнок — не просто крохотная почемучка, а любознательное, открытое миру и по-своему мудрое создание. Взрослым стоит у них многому поучиться.

## БОЛЬШИМ И МАЛЕНЬКИМ ПОСВЯЩАЕТСЯ

Дети любят делать всё наоборот. Скажешь им, что нужно убирать игрушки, — ещё больше разбросают их по комнате, посоветуешь мыть руки перед едой — специально выпачкаются и сядут за стол, невозмутимо опустив в тарелку упрямый нос. Вы думаете, что строгий голос, грозный взгляд и угрозы оставить на неделю без сладкого помогут? Родители, не будьте наивными! Самый надёжный борец с детской вредностью — книга **Григория Остера «Вредные советы»**, вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест». «Если вас зовут обедать, гордо прячьтесь под диван…» или «Возьми густой вишнёвый сок и белый мамин плащ…», — помните эти бессмертные фразы? Многие критики говорят, что эффект от вредных советов может быть непредсказуемым. Ребёнок либо станет совсем неуправляемым, либо посмотрит на себя со стороны, поумнеет и исправится. Дело в том, что ловкая игра слов и тонкий юмор, характерные для писателя, подходят мальчикам и девочкам постарше, а не малышам, воспринимающим всё буквально. Не зря говорят, что для воспитания ребёнка нужно больше усилий, чем для управления государством, но ведь оно того стоит. Если всё сделать правильно, из каждого смешного карапуза обязательно вырастет сильная личность.

Сам Григорий Остер полюбил книги благодаря маме, которая работала библиотекарем в Ялте, где он родился и вырос. Сегодня у него пятеро детей и ещё больше внуков, которым он обязан своим вдохновением и желанием творить. Хорошим дополнением к «Вредным советам» будут и другие издания автора — «Папамамалогия», «Воспитание взрослых», юмористические учебники. Григорий Остер пишет так, что границы между взрослыми и детьми стираются. Вот представьте: они садятся вечером на мягкий диван и читают вместе, смеются, забывая обо всех ссорах и неурядицах. «Если вы с утра решили хорошо себя вести, смело в шкаф себя ведите и ныряйте в темноту», — провозглашает в одном из советов Григорий Остер. А ведь это прямое обращение к родителям: чтобы ребёнок не замкнулся в себе, не спрятался, как улитка в раковину, нужны терпение и умение прощать. Нотации, упрёки и скандалы ещё никого не превратили в хорошего человека. Детям тоже не мешает задуматься о том, что рисовать на обоях, подкидывать котлеты к потолку и вытирать руки о соседа — бесполезная трата своих сил и здоровья взрослых, которых, к слову, тоже нужно беречь!



## ПЕРВЫЕ ШАГИ

Книги **«Весёлый алфавит»** и **«Учим буквы»**, вышедшие в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест», помогут ребёнку не только освоить первые навыки чтения, но и познакомят его с окружающим миром, расскажут о животных, их характерах и повадках, а также о полезных и необходимых в жизни предметах. В чём соревнуются дельфины и за кого так беспокоится смелая волчица? Кто днём и ночью отвечает за ценные и важные грузы? Где можно увидеть самых хвастливых птиц? Персонажей в изданиях столько, что их с уверенностью можно назвать маленькими энциклопедиями. Здесь есть всё, что обязательно понравится малышу: лёгкие, забавные стихотворения возле каждой буквы, красочные, добрые, радужные картинки. Быстрое запоминание гарантировано! А тем, кто успешно освоил алфавит, полагается награда: настоящие сказочные истории в стихах или прозе в конце каждой книги.

## РЕБЁНОК, БУДЬ ЧЕЛОВЕКОМ!

**«Уроки вежливости» Владимира Степанова**, появившиеся в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест», — своеобразный этикет для самых маленьких в лучших традициях басен Крылова. Герои здесь, в большинстве своём, — животные, но их поступки ассоциируются с человеческой мудростью или, наоборот, глупостью. Книга состоит из трёх разделов. В первом рассказывается о хороших манерах, вежливости, о том, что нужно старательно учиться, помогать родителям, быть самостоятельным и не лениться. Во второй части автор, напротив, приводит случаи плохого поведения: трусости, неряшливости, непослушания. В. Степанов — автор более 150 книг для детей и подростков. Его стихи легко запоминаются, но не в этом их главная ценность. Владимир Степанов учит любить и беречь природу и родную землю. Неудивительно, ведь в детстве отец, агроном по образованию, познакомил мальчика с миром растений, научил его ухаживать за цветами, выращивать кустарники и даже деревья. На творчество писателя повлияло и педагогическое образование, работа в школе — он умел думать и чувствовать, как его воспитанники. Но не думайте, что «Уроки вежливости» — это свод строгих и занудных правил. Завершается книга, представьте себе, смешными дразнилками, которые можно использовать в борьбе с жадинами, плаксами, хвастунами и неумехами. Кроме того, стиль автора — удивительно живой и реалистичный, располагающий к себе любого, даже самого привередливого, читателя.

## ПОИГРАЙ СО МНОЙ…

Книжек много не бывает! — уверенно провозглашают родители ребёнка, который только что научился читать, и пускаются опустошать полки книжных магазинов, создавая ажиотаж и очереди. А если кроха хочет поиграть с машинками, повозиться с собакой или посмотреть мультфильм? Строгие запреты ни к чему не приведут. Прививать любовь к книгам следует постепенно и вдумчиво. Существуют издания, позволяющие не только читать, размышляя



над перипетиями сюжета, но и чувствовать себя его участником. Речь идёт о сказках-играх, где помимо текста и картинок даются задания, развивающие у детей внимание, воображение, логику, умение рисовать и считать. В книгах **«Волк и семеро козлят. Три поросёнка»**, а также **«Снегурушка и лиса. Лиса, заяц и петух»**, вышедших в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», можно найти пазлы, картинки с отличиями, пройтись по лесным лабиринтам, решить кроссворд и справиться с ребусами. Более того, маленький читатель почувствует себя настоящим героем: поможет животным найти свои хвосты, соединив их линиями, подсчитает поросят, гоняющихся за бабочками в траве, выручит лисичку, которая вдруг потеряла свой цвет и заблудилась на волшебной поляне, не сумев разгадать головоломку. Завершат литературное приключение мастер-классы по изготовлению изящных бумажных игрушек. Ну и кто сказал, что читать — это скучно?



## КРУГОСВЕТНОЕ ЧТЕНИЕ

У каждого существа на планете есть самое дорогое место, где всегда ждут, куда можно в любой момент вернуться. Книга **Татьяны Комзаловой «У кого какой домишко?»**, опубликованная в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест», рассказывает о том, где обитают самые разные зверушки — от муравьёв до белых медведей. «За бобром не лезь в берлогу, не ищи слона в норе. Не живёт пчела на льдине, а пингвины — в конуре», — предостерегает малышей писательница. Кроме стихотворений в её книжке «поселились» загадки, лабиринты, ребусы, даже знаменитая головоломка от Снежной королевы, которую не смог разгадать Кай. Однохнуть от умственной разминки, а лучше всего — заснуть под убаюкивающий голос мамы, ребёнку позволят две сказки о том, как хомячок Тёпа строил дом, а цыплёнок не мог отыскать свой сон.

## ПОМОЩНИК В КАРМАНЕ

**«Весёлая книжка девчонкам и мальчишкам»**, вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», легко умещается в детской ладошке, и её запросто можно носить с собой. Здесь собраны стихи и песни любимых всеми авторов, среди которых Сергей Михалков, Эдуард Успенский, Борис Заходер, Самуил Маршак, Агния Барто. Книга поможет выучить алфавит, цифры, названия месяцев, познакомит с правильным распорядком дня и, наконец, просто поднимет настроение! Крокодил Гена с Чебурашкой, Винни-Пух с Пятачком и другие весёлые персонажи об этом позаботятся. Помогайте ребёнку развиваться с помощью этой книжки — читайте ему каждый день, отвечайте на вопросы и просто общайтесь…

## ПРИГЛАШЕНИЕ В СКАЗКУ



«Никогда не обещайте ребенку, чего нельзя выполнить, и никогда не обманывайте его», — говорил великий русский педагог Константин Ушинский, один из авторов книги **«Чудесная звёздочка»**, вышедшей в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест». Трудолюбию, мудрости и уважению к природе учит он в своих рассказах «Дети в роще», «Пчёлы и муха», «Лес и ручей». Интересно, что Константин Ушинский решительно возражал против развлекающего, слишком лёгкого обучения, уверенный в том, что человек с малых лет должен приучаться к преодолению трудностей. Разумеется, по мере своих возможностей. В то же время дружеский тон, мягкость и простота — вот что характерно для стиля его литературных произведений.

Борис Житков с его приключенческими повестями «Как я ловил человечков», «Тихон Матвеич» и, конечно же, историями о животных дополняет галерею писателей, включённых в книгу. Ни с кем другим не спутаешь также Всеволода Гаршина и его сказку о Лягушке-путешественнице, забавном, очаровательном, невероятно подвижном существе с огромными глазами и перепончатыми лапками. Пётр Бажов, русский сказочник и фольклорист, собиравший вдохновение для своих творений на родном Урале, порадует детей фантастическими образами Серебряного Копытца и Голубой Змейки. Творчество писательниц Лидии Чарской и Екатерины Серовой, их элегантная и остроумная проза, станет завершающим аккордом «Чудесной звёздочки».

**Мария ВОЙТИК**




ХАРВЕСТ HARVEST

Издательство «Харвест» — динамично развивающаяся компания, основана в 1991 году и открыта для сотрудничества со всеми желающими.

Издательство «Харвест» выпускает КНИГИ всех жанров и направлений, которые распространяются как на территории Республики Беларусь, так и далеко за ее пределами. Это — книги для детей, художественная литература, деловая литература, издания для досуга, научно-популярные издания, энциклопедии, словари и многое другое. Кроме того, ООО «Харвест» осуществляет оптовую торговлю книгами.

220013, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Кульман 1/3, ком. 42.
Тел./факс: (017) 331-35-49,
тел. 209-80-53
E-mail: harvest_torg@tut.by
harvest08@mail.ru
natalipolojko@rambler.ru

# Чаму старэюць людзі?

Гэта пытанне паўстала на першым спектаклі II міжнароднага свята-фэсту «Лялькі над Нёманам» у Гродне, а ўсё праз Дзяржаўны тэатр лялек. Узнятае слушна і своечасова, пытанне вызначыла аднайменны спектакль у жанры сучаснае прыпавесці, а спектакль, у сваю чаргу, адзначаны за лепшую рэжысуру Аляксея Ляляўскага.



…Тэкст п'есы Анатоля Вярцінскага «Дзякуй, вялікі дзякуй», які зазнаў бліскучыя інтэрпрэтацыі ў спектаклях (напрыклад, Алега Жугжды ў Магілёўскім і Брэсцкім тэатрах лялек пад назвай «Рыгорка — ясная зорка»), быў апазнаны з першых рэплік. Тэкст здаваўся знаёмым, але сюжэт няўлоўна паварочваў… кудысьці не туды — далей ад знаёмай казкі, якая ўяўлялася дзіцячай сцэнічнай класікай. Давялося ўдакладняць у Аляксея Ляляўскага, і высвятлілася, што спектакль пастаўлены па першым варыянце казкі Анатоля Вярцінскага, які знайшоўся ў тэатральным архіве. Гэта важна таму, што адсоўвае час стварэння п'есы гадоў на трыццаць ад нашых інтэрнэтаў і сацыяльна-палітычных крызісаў; гадоў на дзесяць-пятнаццаць ад перабудоў і роскідаў найбуйных дзяржаўных гнёздаў. Мяркую, што тэкст і сюжэт Анатоль Ільіч распрацоўваў яшчэ да Чарнобыля, даследуючы тое, як вялікія і малыя сацыяльныя ўзрушэнні сціскаюць, выпетрываюць чалавечую прыроду; вытручваюць з яе найважны духоўны складнік і тым самым рыхтуюць незваротны катаклізм…



Няхітры сюжэт палягае ў тым, што жылі сабе дзед і баба. Быў у іх сын Іванка — ды загінуў на вайне. Быў у іх сын Раманка — ды памёр па вясне. Дзед і баба, жадаючы прыстойнай старасці і годнага адыходу, хочуць дзіця. З'яўляюцца тры старцы, абяцаюць, і дзіця… прылятае, як зорка.

Гадуючыся ды назіраючы жыццё, хлапчук задае бацькам звычайнае пытанне: чаму яны, бацькі, такія старыя? Чаму не ўпадае Рыгорку ў вока аніводная маладая асоба? Ажно, выяўляецца, Змей вінаваты! Адабраў ад людзей добрае насенне і падкінуў замест яго злое зелле, праз якое маладосці нямашака. Рыгорка выслухае адказ і спяшаецца зрабіць добрыя справы, каб аддзячыць дзеду і бабе за тое, што сваім жаданнем далі яму магчымасць, так бы мовіць, увасобіцца і спазнаць іншы свет (наш з вамі?), а таксама іншы спосаб існавання, гэта значыць жыццё (наша з вамі?).

…І выпраўляецца Рыгорка ваяваць Змея. Натуральна, яго чакаюць непрыемныя сустрэчы са зняважанымі ды пакрыўджанымі. А таксама падрабязнасці таго, як ад знявагі можна дайсці амаль што да не-жыцця. З кожнай сустрэчы вынікае выснова-прыказка: людзі злом за дабро плацяць. І Рыгорку б не мячом махаць, а думаць, але на вайне як на вайне. Праўда, і Змей апынаецца не тое каб вельмі разумным, але вельмі дасведчаным у чалавечым жыцці і яговых законах. Ён прапануе герою добрае насенне (вядро!) у агульначалавечае карыстанне, калі гэтыя чалавекі хоць бы аднойчы праявяць сябе прыстойна, што павінна ўвасобіцца ў простае «дзякуй» нашаму герою. А інакш патрапіць Рыгорка пад Змееву ўладу…

…Невялікія падмосткі прыўзнятыя над сцэнай на караценькіх слупкахпадпорках. У дошках — адтуліны для прадметаў, якімі пазначаюць месцы дзеяння (слупы, дрэвы), — іх імгненна ўсталёўваюць, мацуюць, і адна сцэна без затрымкі змяняе іншую. Пры падмостках — сцяна-заднік, у ёй — трое дзвярэй, у кожных дзвярах — дзверкі ды акенцы накшталт тых, што робяць у раздатачных бальнічных ядальнях. Яны спрацоўваюць як невялікія дадатковыя пляцоўкі для працы з лялькамі.

Дзверы — мяжа звыклага і населенага сцэнічнага свету. Дзверы зачыненыя — экран для флэш-анімацыйных ролікаў: птушачкі ляцяць, слупы мільгаюць… З-за дзвярэй з'яўляюцца аніматары, апранутыя як лекарскі персанал. Яны кіруюць планшэтнымі лялькамі, даўгарукімі, даўганогімі (дзеда і бабу мастак спектакля Таццяна Нерсісян назвала лялькамі, «блізкімі да мімічных») і пачынаюць са сцэны скаргаў і ўспамінаў. Натуральна, сваю маладосць старыя памятаюць значна лепш за ўчорашні дзень. Старыя (артысты Уладзімір Грамовіч і Святлана Цімохіна) смуткуюць па сынах і ўздыхаюць: «Няшчасныя мы»… Не падобна, што дзеянне спектакля адбываецца ў лякарні, ды наўрад ці дома ў старых ёсць сядзелкі. Гледзячы на тое, як людзі ў белых халатах падхопяць і павядуць сцэны з усімі, каму ў жыцці за дабро заплацілі злом, мяркую, што ў іх, як у апошнюю надзею, увасобіліся анёлы-ахоўнікі адпаведных персанажаў спектакля. Чалавечыя — у медбратоў лякарняў ды хоспісаў. Звярыныя — у абслугу прытулкаў або ўстаноў, якія ўладкавалі на працу сапраўдных гіцляў. Разам яны ладзяць выпрабаванне насельніцтву спектакля, але лекарскія маскі ды пальчаткі не здымаюць: няўдзячнасць — яна заразлівая…

З цёмнай прасторы (з-за дзвярэй) вынікнуць… у драматурга — тры старцы, якіх наш нацыянальны фальклор нязменна надзяляў выключным пачуццём справядлівасці і звышнатуральнымі магчымасцямі. У рэжысёра — тры дзядзькі з нейкага сучаснага анекдота, сельскія ды гарадскія. Выслухаўшы старых, утрох абяцаюць дапамагчы; адзін з дзядзькоў лезе ў партфель, іншы поркаецца па кішэнях: «Будзе вам сын Рыгорка…»

Слізгаюць па задніку зоркі, і да дзеда з бабай улятае калыска… І далей — увага! — адзін «старац» бярэцца анімаваць Рыгорку (Цімур Муратаў), другі, пакінуўшы партфель, але нават не зняўшы капелюша, пераўвасабляецца ў Змея (роля Аляксандра Васько вырашаная толькі жывым планам), а трэці далучаецца «да народа» (выходзіць у масавых сцэнах). Усе — акцёры заўважныя, запамінальныя. Але якую звышнатуральную справядлівасць задумаў даследаваць рэжысёр Аляксей Ляляўскі? Якая найвышэйшая спрэчка асудзіла герояў спектакля на выпрабаванне? Хто ў ім павінен сябе паказаць, а хто — на сябе паглядзець?

Трэба заўважыць, што спектакль «Чаму людзі старэюць?» прыехаў на гродзенскі фестываль са скарачэннямі, якія ні пытанням, ні адказам не паспрыялі. Затое спрэчку пра сваю мэтавую аўдыторыю, дзіцячую альбо не дзіцячую прынцыпова, спектакль паспяхова адваяваў. Сцэнічны аповед ператвараўся ў прыпавесць, якая, сама менш, вымагала абазнанасці — хоць літаратурнай, хоць культурніцкай, і штодзённае працы з дзецьмі. Бо глядзець спектакль трэба ўмець. І, адпаведна, глядзець спектакль трэба вучыць.

…Толькі выкруціўся Рыгорка з пялюшак, як… наставіў меч на навакольнае жыццё, апярэджваючы сваё геераічнае прызначэнне. Але вызначальнае слова — за народам, у спектаклі — народанасельніцтвам. Уявім, як яно вывальваецца на пляцоўку: аніматары, прытупваючы і спяшаючыся, выносяць купу… гэткіх шпакоўняў, дзе за кожнымі дзвярыма месціцца крыклівая пакрыўджаная істота. Гэтыя істоты высвятляюць Рыгоркаў намер ваяваць, і дзіўная палёгка ахінае іхнія інтанацыі. Падазрона-актыўна скардзяцца яны на Змея і згадваюць-пералічваюць яговыя злачынствы, у тым ліку выкраданне Марылькі, мясцовай прыгажуні. Як толькі Рыгорка клянецца Марыльку адбіць, дзверы шпакоўняў пачынаюць хуценька зачыняцца. Насельніцтва альбо развітваецца з героем, альбо падбадзёрвае яго (маўляў, ідзі-ідзі, хутчэй не вернешся). Рып і ляскание наводзяць на думку пра дзверы вясковых прыбіральняў і распарадак народнага жыцця: аднак жа дысцыпліна!

Паляцелі па задніку птушкі, пабеглі слупы… На рух флэш-малюначкаў накладаюцца перасоўванні аніматараў. Далікатна, але хутка перакрываючы малюнак на задніку, яны выносяць рэальныя слупы, нацягваюць правады, плятуць нейкае сеціва… Перацяканне дзеяння маляванага ў дзеянне непасрэднае, жывое, то бок флэш-анімацыі ў сцэнічнае дзеянне, адбываецца настолькі натуральна, як быццам у тэатры толькі і займаюцца засваеннем альбо стварэннем новай сцэнічнай рэальнасці. Выяўленчы стыль і пластыка «флэшкі» падтрыманы стылёвымі асаблівасцямі і пластыкай лялек. Дзеянне не спыняецца і не згасае, не прытармажвае нават тады, калі персанажы прамаўляюць тэкст. А тэкст зразумелы нават у тых выпадках, калі лялечныя персанажы кажуць адно, а маюць на ўвазе ці задумалі іншае. Мастацкі рыштунак пасоўвае спектакль да непрадказальнага развіцця.

…Страшнага і смешнага мутанта Марыльку велізарных памераў не змяшчае пляцоўка; яе рукі-ногі-галава з'яўляюцца ў розных вокнах-дзвярах канструкцыі. Прыўкрасная дама не кажа пра каханне, але кажа пра волю, чым сагравае сэрца рыцара. Пра сагрэтае сэрца ён так проста і абвяшчае. Марыльцы — адразу, насельніцтву — пасля знаёмства з тымі, каму яно паспела злом заплаціць за дабро. Можа, усё і абышлося б, але ж Рыгорку трэба ведаць, хто крыўдзіў пакрыўджаных! І ён даведваецца! І як вы мяркуеце, што ён робіць? Спачувае гаспадарам шпакоўняў-прыбіральняў? Прымае іх казачную рацыю? Не! Ён па-свойму, па-геройску спрабуе ім растлумачыць: кожная несправядлівасць адымае ад іх саміх долю жыццёвае моцы ды маладосці; крыўдзіць слабых — нядобра; вядро добрага насення — на ўсіх! Ён іх сароміць! А якое насельніцтва вытрывае такую гераічнасць?

Насельнікі шпакоўняў становяцца народнымі трыбунамі — адразу ўсе. А шпакоўні, натуральна, трыбунамі. Усе гавораць і зневажаюць героя, ажно пакуль не стамляюцца ад уласнай няўдзячнасці. Тады сілай сваіх аніматараў лялечныя грамадзяне зачыняюць дзверы шчыльней. Правяраюць, ці не адчыняцца яны выпадкова. І шпакоўні-прыбіральні ператвараюцца ў дамавіны, бо ёсць традыцыя — пакутаваць, наракаць на лёс, разважаць пра несправядлівасць.

Змей. Толькі ён! Адзіна магчымы і неабходны. Знак адзінства і моцы, разумнага сэнсу і практычнасці, зелля надзённага і дамавіны выпешчанай. І няма чаго тут шнырыць з мячамі, калі традыцыя ў небяспецы!

…Забіваюць героя народнымі кулакамі-кавадламі, у простым сэнсе выбіваючы з яго душу. Душа-зорачка вяртаецца ў нябеснае кола, дзед з бабай канстатуюць: «Быў у нас сын Рыгорка… ды адляцеў, як зорка…» Няма каму іх вывабіць з заганнага кола. Няма каму сустрэць у коле наступным. Быў у іх сын Рыгорка… Апошні?

Не кожная казка канчаецца добра, а ўжо прыпавесць — і пагатоў. Аўтэнтычнаму казачнаму фальклору беларусаў тэатр не супярэчыць. І, прызнаюся, народны ўчынак мяне не здзівіў. Але ці хі адлёт геройскай душы агаломшыў. Як так? Паквапіўся на благую традыцыю, ускалыхнуў розумы, заклікаў да сумлення, паплаціўся. І — усё? А… далей?

У памяці спектакль пераждываўся яшчэ і яшчэ раз. І чамусьці рос, узбуйняўся па памерах і значнасці. Выявы, абагульненні, матывоўкі — усё было на месцах. Тэмпарытм трымала арыгінальная музыка Леаніда Паўлёнка і дакладныя дзеянні артыстаў…

У памяці аднаўляўся рух. І лінейны, і замкнёны, і кругавы (колавы), і, з прылётам і адлётам зоркі, проста-такі касмічны. (Казалі ж адно аднаму персанажы Клайва Льюіса: «Далей уверх і далей углыб!») Вобразы развіваліся і ператвараліся. Але няўжо герой адляцеў да сваіх зорак, нічога не змяніўшы?

…Герой выканаў сваё прызначэнне. Насельніцтва засталося пры сваіх інтарэсах. Змей пацвердзіў веданне чалавечай прыроды. Яны пражылі сцэнічныя жыцці, пераконваючы гледача ў тым, што рух, развіццё і воля змяняюць звыклы свет толькі тады, калі свет гатовы змяніцца. І так далей, паводле дыялектыкі ды эвалюцыі. Вось толькі дзе набрацца Рыгорак?

**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**фота з архіва**
**Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек**

*Размова пра II міжнароднае свята-фэст «Лялькі над Нёманам» працягнецца ў наступным нумары «ЛіМа».*

# За кадрам…

Гісторыя беларускага неігравога кіно пачалася, калі дакументальны спосаб адлюстравання рэчаіснасці заваяваў статус самастойнага віду мастацтва. Вялікую ролю ў развіцці нацыянальнага дакументальнага кінематографа выканалі аператары, ад якіх залежалі стылістыка фільма, выразнасць і дынамізм кадра, раскрыццё рэжысёрскай задумы.
22 мая споўнілася 70 гадоў выбітнаму прафесіяналу беларускага дакументальнага кіно — аператару і кінарэжысёру Юрыю Гарулёву.

Нарадзіўся ён у вёсцы Сулак Ульмецкага раёна Тамбоўскай вобласці ў сям'і пісьменніка. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў бацькі перасяліліся ў Магілёў, з 1949 года жылі ў Мінску. Са школьных гадоў Юрый Гарулёў марыў пра кіно і пасля атрымання атэстата паступіў у Ленінградскі інстытут кінаінжынераў, завочна вучыўся на аператарскім факультэце Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве.

З 1975 года на кінастудыі «Беларусьфільм» Юрый Мікалаевіч працаваў асістэнтам аператара на кінахроніцы. Здымаў спартыўныя рэпартажы, разам з рэжысёрам У. Цеслюком стварыў фільм пра будаўнікоў мінскага метро, удзельнічаў у асвятленні Летніх Алімпійскіх гульняў у Маскве ў 1980 годзе. Першай самастойнай аператарскай работай стала дыпломная кінастужка «Хай будзе вецер» (1982). Некалькі фільмаў зняў з таленавітым рэжысёрам А. Рудэрманам. Іх сумесная работа «Хто выправіць памылку Дэметры?» (1984) лічыцца адной з першых у беларускім кіно, дзе закрануты праблемы меліярацыі і экалогіі на Палессі. Разам быў створаны і фільм «Гуд бай, СССР!» (прыз за лепшы кадр кінафестывалю «Кінакалядкі», Мінск, 1990). Плённай стала праца з рэжысёрам-дакументалістам М. Жданоўскім, з якім быў зняты фільм «Цавэд танэм. Арменія. Фрагменты трагедыі» (1989) пра землятрус у Спітаку і Ленінакане. Убачанае ў Арменіі стала для Ю. Гарулёва крокам філасофскага асэнсавання сутнасці



абранай прафесіі, адказнасці за тое, што нясе фільм гледачам.

З 1990 года Юрый Мікалаевіч пачаў здымаць фільмы сам. Прыход у рэжысуру быў абумоўлены ўсёй папярэдняй творчасцю і жыццёвым досведам. Сярод рэжысёрскіх работ вылучаюцца фільмы «Выпадак з практыкі» (1990; прыз кінафестывалю «Кінакалядкі», Мінск, 1991 г. і Першы прыз кінафестывалю «Лятавец», Полацк, 2001), «Дзеці кавалера Джамбатысты Піранезі» (1995), «Засталася душа яго тут» (1997), «Філасофскае аддзяленне» (2001), «Помнік» (2003; дыплом Міжнароднага кінафестывалю «Залаты Віцязь» (Расія) і дыплом I Міжнароднага кінафестывалю ваенна-патрыятычнага фільма імя С. Бандарчука «Валакаламскі рубеж», Расія, 2004), «Выпуск напярэдадні вайны» (2004), «Маленькі остарбайтар» (2005), «Мелодыі бярозаўскай гуты» (2007), «Фатограф Ульяна» і «Глыбокае» (2009), «Летапіс у промнях святла» (2011).

Асобае месца ў творчасці Ю. Гарулёва займае тэма рэлігіі, духоўнасці і веры. Яна раскрываецца ў фільмах «Іконы Беларусі» (1993), «Усемагутны Божа» і «Арганы Беларусі» (1995), «Дотык» (1996). У 1997 годзе рэжысёр заснаваў уласную кінастудыю «Стопкадр», дзе пачаў здымаць кінастужкі толькі на рэлігійную тэматыку. Яго першы фільм, зроблены там, — «Mater Misericordiae» («Маці Міласэрная», 1997) — прысвечаны жыццю і дзейнасці кардынала Казіміра Свёнтака. Фільм «Малітва» (1998), які распавядае пра адраджэнне каталіцкага касцёла ў Тамбове, атрымаў Гран-пры фестывалю «Непакалянаў-98» у Польшчы. Кінастужка «Вяртанне» (1999) знаёміць гледачоў з гісторыяй Мінскага Архікафедральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі (вернуты вернікам у 1993 г.).

Апрача гэтага, Юрый Гарулёў з'яўляецца арганізатарам і нязменным старшынёй Міжнароднага каталіцкага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat», а таксама прэзідэнтам Беларускага філіяла Сусветнай каталіцкай Асацыяцыі для камунікацый «Signis». За плённую рэжысёрскую, аператарскую і грамадскую дзейнасць у 2005 годзе ўзнагароджаны прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне».

**Кацярына ВАРАНЬКО,**
**вядучы бібліёграф**
**Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

# Спяваем Манюшку

II Адкрыты конкурс вакалістаў імя Станіслава Манюшкі «Убельская ластаўка», прымеркаваны да 195-годдзя з дня нараджэння вялікага кампазітара, прайшоў сёлета ў Мінску і Чэрвені.

У конкурсе пад старшынствам заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, мастацкага кіраўніка творчага калектыву «Беларуская капэла», прафесара Віктара Скорабагатава ўзялі ўдзел студэнты музычных навучальных устаноў з Беларусі, Расіі, Украіны і Чэхіі. Па выніках трох адборачных тураў, дзе конкурсанты павінны былі выканаць класічную старадаўнюю арыю, народную песню, арыю з оперы, араторыі або кантаты, твор кампазітара краіны, якую прадстаўляе ўдзельнік, і арыю, раманс ці песню Станіслава Манюшкі, у лік лепшых увайшлі маладыя салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, тэнары Віктар Мендзелеў і Павел Пятроў. Яны студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, адны з самых яркіх і перспектыўных маладых акадэмічных спевакоў у краіне. Віктар Мендзелеў уганараваны II прэміяй конкурсу, Павел Пятроў заняў трэцяе месца, а таксама атрымаў спецыяльны прыз «За лепшае выкананне твора Станіслава Манюшкі».

У межах заключных мерапрыемстваў свята-конкурсу на радзіме знакамітага кампазітара адбыўся Гала-канцэрт пераможцаў і выступленне вядучых майстроў сцэны. Музычную творчасць кампазітара «Граем Манюшку» прадставіла народная музычная капэла «Ігуменскія крыніцы» (Чэрвень). Адметным падарункам для жыхароў і гасцей свята стала лірыка-камедыйная опера С. Манюшкі «Verbum Nobile» («Слова гонару») у пастаноўцы Камернага музычнага тэатра «Галерэя».

Арганізатары свята-конкурсу «Убельская ластаўка» — галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінаблвыканкама, Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр, аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Чэрвеньскага райвыканкама.

**Таццяна ШЫМУК**

# Радзівілы вяртаюцца ў Мір



*Вольга Папко і князь Канстанцін Гагенлаэ з партрэтам Стэфаніі Радзівіл.*



*Партрэт Мікалая Радзівіла Чорнага.*

Унікальная калекцыя партрэтаў і прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якая належала гаспадарам Мірскага замка ў XIX стагоддзі, была знойдзена ў выніку навуковых даследаванняў спецыялістамі музея ў Баварыі ў палацы Шылінгсфюрст яшчэ ў 2012 годзе. У Германію калекцыю перавезла княгіня Марыя Гагенлаэ, нашчадак Радзівілаў па жаночай лініі, у канцы XIX стагоддзя. Цяпер партрэтамі валодае князь Канстанцін Гагенлаэ, спадчыннік бакавой лініі.

Паводле дырэктара музея Вольгі Папко, калекцыя стваралася для аднаго вялікага параднага памяшкання і выдатна ўпісалася ў інтэр'ер Партрэтнай залы, дзе і размясцілася выстаўка. Дырэктар не хавае хвалявання: калі яна ўпершыню ўбачыла калекцыю ў Шылінгфюрсце, ідэя прывезці хаця б частку яе ў Беларусь здавалася не больш як амбіцыйным праектам.

— Працэс арганізацыі выстаўкі заняў амаль паўтара года, было задзейнічана шмат прыватных асоб і арганізацый. Перш за ўсё трэба падзякаваць супрацоўнікам Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Мюнхене і Інстытута імя Гётэ ў Мінску, якія ўзялі самы актыўны ўдзел у праекце. І, вядома, мы ўдзячныя князю Гагенлаэ: дзякуючы яго добрай волі рэліквіі Радзівілаў, хай і на кароткі час, вярнуліся ў Мірскі замак, — адзначыла кандыдат гістарычных навук, дырэктар музея «Замкавы комплекс «Мір» Вольга Папко.

На выстаўцы ў Міры прадстаўлены два вялікія партрэты ў поўны рост і 16 твораў меншага памеру. Самая позняя работа датавана 1884 годам і належыць пэндзлю віленскага мастака Вікенція Слязінскага. Аўтарства астатніх работ невядомае. Сярод герояў, намаляваных на партрэтах, самыя значныя прадстаўнікі роду Радзівілаў пачынаючы ад міфічнага продка Войшунда. Цалкам калекцыя, у якую акрамя палотнаў уваходзяць прадметы побыту — посуд, фарфор, адзенне, — захоўваецца ў палацы князя Канстанціна Гагенлаэ ў горадзе Шылінгфюрсце (Баварыя).

Істотна, што на адкрыццё вернісажу прыехаў як сам уладальнік калекцыі, так і князі Мацей і Мікалай Радзівілы (Польшча). Для іх падрыхтавалі цікавую праграму: экскурсіі ў Нясвіж, Мінск і нават наведванне Чэмпіянату свету па хакеі.

Пабачыць партрэты знакамітых князёў можна да 16 лістапада.

**Таццяна ШЫМУК**

# Твор стагоддзя

Выстаўка «Габелен стагоддзя» ўнікальнага твора беларускага мастака Аляксандра Кішчанкі адкрылася ў будынку цэнтральнага офіса Банка развіцця ў Мінску.

«Габелен стагоддзя» — гіганцкае палатно вышынёй у шасціпавярховы дом. Яго вага — 286 кілаграмаў, плошча — 266 квадратных метраў. Упершыню габелен быў прадстаўлены публіцы ў 1996 годзе і з-за сваіх значных памераў выстаўляўся ўсяго некалькі разоў. Ён выраблены спосабам ручнога ткацтва з натуральнай воўны. На палатне аўтар адлюстраваў больш як 80 партрэтаў самых вядомых асоб мінулага і сучаснасці, а таксама выявы на рэлігійную тэму. Мастак нібыта зазірнуў у XX стагоддзе з касмічнай далечы.

Паводле старшыні праўлення Банка развіцця Беларусі Сяргея Румаса, асаблівасць экспазіцыі ў тым, што дзякуючы архітэктуры будынка і размяшчэнню ў ім габелена наведвальнікам упершыню прадастаўлена магчымасць дэталёва разгледзець твор на розных узроўнях. Раней гэта можна было зрабіць толькі пры дапамозе бінокля. «Вельмі рады, што дзякуючы нашаму банку жыхары сталіцы і госці Чэмпіянату свету па хакеі, які праходзіць у гэтыя дні ў Мінску, змогуць азнаёміцца з габеленам», — зазначыў Сяргей Румас. Адказваючы на пытанне пра магчымасці пастаяннай экспазіцыі «Габелен стагоддзя» ў Банку развіцця, старшыня праўлення падкрэсліў: усё будзе залежаць ад таго, наколькі ўдалым атрымаецца цяперашні досвед.

У цырымоніі адкрыцця выстаўкі ўзяў удзел міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, які зазначыў, што для любога твора важна, каб яго бачылі, каб маглі ацаніць аўтарскую ідэю.

Выстаўка «Габелен стагоддзя» будзе доўжыцца па 30 мая. Уваход на яе бясплатны. Дасведчаныя экскурсаводы гатовыя распавесці пра ўнікальны твор на розных мовах.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Святлана ЧАРНЯЎСКАЯ, дырэктар Мядзельскага музея народнай славы, распавядае пра сваю ўстанову, цікавыя акцыі і мерапрыемствы:**

— Векапомныя падзеі, лёсы людзей, успаміны старажылаў знайшлі сваё адлюстраванне ў музейнай экспазіцыі.

Значнае месца адведзена жыццю і творчасці нашых вядомых землякоў: народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча, народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч, мядзельскіх паэтаў Мар'яна Дуксы, Міколы Шабовіча, Адольфа Варановіча… Асаблівае месца займае экспазіцыя, прысвечаная народнаму паэту Беларусі Максіму Танку. Рукапісы, кнігі з аўтографамі, шматлікія фатаграфіі, асабістыя рэчы — сапраўдная памяць пра паэта.

Мядзельскі музей як установа культуры займае адметнае месца ў грамадскім жыцці раёна. Штогод ладзім каля 20 самых разнастайных выставак з уласных фондаў і фондаў іншых устаноў. Упершыню ў гісторыі Мядзельшчыны была арганізавана экспазіцыя аўтарскіх работ Алены Мацяш «Лапікавы домік» у межах дабрачыннай акцыі «Няхай дзяцінства будзе шчаслівым». Па папярэдняй дамоўленасці з кіраўніцтвам Міжнароднага дабрачыннага фонду «Шанс» уся грашовая выручка, атрыманая ад выстаўкі, была адрасавана цяжкахвораму хлопчыку Пецю Надточаму з Вілейскага раёна, у якога рэдкае генетычнае захворванне. Выстаўка карысталася вялікім поспехам, на працягу месяца яе наведала больш як 2 тысячы чалавек. У Нарачанскім краі нямала людзей з добрымі сэрцамі, гатовых прыйсці на дапамогу. Спадзяёмся, што наш сціплы ўнёсак дапаможа хлопчыку.

Мядзельскі музей плённа супрацоўнічае з іншымі культурнымі ўстановамі краіны, прадпрымальнікамі. Цесныя стасункі падтрымліваем з Вілейскім цэнтрам эстэтычнага выхавання, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя М. Танка, Дзяржаўным музеем гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, пасольствамі Кітайскай Народнай Рэспублікі, Японіі, Літвы, Украіны, а таксама суполкамі яўрэяў і татар у Беларусі, грамадска-культурным аб'яднаннем аматараў вышыўкі «Вышывальшчыца» пры музеі Беларускага народнага мастацтва філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Маладзечанскім дзяржаўным музычным вучылішчам імя М. К. Агінскага, Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў. Мы адкрыты для супрацоўніцтва з установамі, арганізацыямі, зацікаўленымі асобамі для вывучэння і папулярызацыі мінулага і сённяшняга сваёй Бацькаўшчыны.

*Музейны ўнікат*

# Па-баявому!

Цэлую калекцыю баявых партызанскіх лісткоў можна ўбачыць на выстаўцы «Перамога будзе за намі!», якая адкрылася ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі ў межах святкавання 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У экспазіцыі прадстаўлены рукапісныя партызанскія выданні — унікальныя дакументы перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Калекцыя баявых лісткоў, якая пачала фарміравацца ў музеі ў канцы 1950-х гадоў XX стагоддзя, налічвае цяпер прыкладна 400 адзінак. Асноўная колькасць гэтых рарытэтаў датуецца 1942 — 1944 гадамі. Яны былі перададзены ў фонды музея з Віцебскіх абкамаў партыі і камсамола, а таксама ад непасрэдных удзельнікаў партызанскага руху. Праўда, на выстаўцы дэманструецца толькі малая частка — каля 60 асобнікаў.




*Рукапісная газета атрада імя М. І. Кутузава (Талачынскі раён). Выпуск прысвечаны Дню канстытуцыі. 1943 г.*

Баявыя лісткі былі важным сродкам агітацыйнай барацьбы, нароўні з лістоўкамі, газетамі і брашурамі заклікалі змагацца з ворагам. Яны адыгралі велізарную ролю ў арганізацыі і дзейнасці партызанскага і падпольнага руху на тэрыторыі акупіраванай Беларусі. Да таго ж, з аднаго боку, служылі для вядзення атраднай дакументацыі, з другога, кожны мог выступіць у ролі журналіста, мастака, паэта.

У такіх выданнях змяшчаліся інфармацыя пра гадавіны савецкіх свят, цытаты з выступленняў кіраўнікоў Савецкай дзяржавы, справаздачы аб праведзеных баявых аперацыях. Побач з афіцыйнай хронікай — сатырычныя аповеды, вершы, палітычныя карыкатуры і сяброўскія шаржы. Узровень работ разнастайны — ад прафесійна выкананага партрэта да простага малюнка. Створаныя ў перапынках паміж баявымі аперацыямі з выкарыстаннем падручных сродкаў (лістоў шпалер, школьных сшыткаў, простых алоўкаў, чарнічнага соку замест фарбы), рукапісныя выданні партызан падтрымлівалі настрой на перамогу. На жаль, не ўсе рарытэты захаваліся да нашых дзён, асноўная іх частка была згублена яшчэ падчас вайны.

**Антаніна ХАЛЕЦКАЯ,**
**навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея**

# Лапці на экспарт

VI рэгіянальнае свята-конкурс «Лазовыя карункі» адбылося ў Вілейцы. Упершыню фэст праводзіўся на Міншчыне ў 1998 годзе. Цяпер ладзіцца раз у тры гады. На сёлетнія свята з'ехаліся знакамітыя і пачынаючыя майстры з Вілейскага, Маладзечанскага, Слуцкага, Валожынскага ды іншых раёнаў сталічнай вобласці. А паглядзець было на што!

З лазовых дубцоў калісьці нашы продкі плялі рыбалоўныя снасці, мэблю, кошыкі, агародкі, кузавы для вазкоў і нават сцены гаспадарчых пабудоў. Цікавасць да гэтага рамяства ў Беларусі асабліва ўзрасла ў другой палове XIX стагоддзя, калі плеценыя рэчы бытавога і дэкаратыўна-прыкладнога характару сталі карыстацца вялікім попытам у гарадскім і местачковым асяроддзі.

— На працягу 1928 — 1934 гадоў у Вілейцы паспяхова дзейнічалі курсы па лозапляценні, якія былі арганізаваны па ініцыятыве Саюза грамадскай працы жанчын і ўпраўлення Віленскай школьнай акругі, — зазначыў начальнік аддзела традыцыйнага мастацтва Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Віталь Каспяровіч. — Вырабы вілейскіх майстроў адрозніваліся высокай якасцю.



*Марыя Аляксандраўна Бурко (найстарэйшая майстрыха) з унукам Аляксандрам Сюдаком ладзяць майстар-клас па пляценні лапцяў.*

Нават паступалі прапановы экспартаваць іх у Англію і ЗША, Данію і Галандыю.

Таму не дзіўна, што здаўна на Вілейшчыне было шмат майстроў, у работах якіх увасабляецца паэтычная прыгажосць роднай прыроды, духоўнае багацце творцаў і шматвяковыя традыцыі. Вытанчанае рамяство, насуперак усім акалічнасцям, перадавалася з пакалення ў пакаленне. На развіццё лозапляцення вялікі ўплыў аказаў таленавіты і самабытны майстар Ігнат Каркоцкі. Ён узначальваў школу лозапляцення на даму, заняткі якой наведвалі супрацоўнікі ўстаноў культуры раёна.

— Свята-конкурс «Лазовыя карункі» стала для Вілейшчыны брэндам, — адзначыў старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, доктар мастацтвазнаўства, старшыня журы Яўген Сахута. — Старажытнае рамяство жыве, квітнее і развіваецца. А наша беларуская лаза ператварылася з папялушкі ў прынцэсу! Хочацца верыць, што свята не згубіць сваіх традыцый на Міншчыне.

Пакуль майстры засяроджана рыхтаваліся да візіту членаў журы, іх вырабы хутка разыходзіліся. Хто не паспеў набыць кошык ці вазу, запісваў тэлефон, каб потым замовіць рэч у майстра. А вось дырэктар Каловіцкага дома рамёстваў Вілейскага раёна Тамара Бурко распавяла, як упадабалі турысты з Расіі лапці з ліпавага лыка. І растлумачыла, чаму: у лапцях цяпер ходзяць у баню ды саўну — і зручна, і карысна для здароўя.

Ажно 10 маладзечанскіх майстроў з народнага аматарскага калектыву «Вербачка», якім кіруе Генадзь Унукаў, бралі ўдзел у творчым спаборніцтве. І кожны



*Генадзь Унукаў.*

прадэманстраваў уласную калекцыю. Прадстаўнічай была і дэлегацыя са Слуцкага раёна. Перамаглі самыя таленавітыя. У намінацыях «За зберажэнне і творчае развіццё традыцый» лаўрэатам стаў Генадзь Унукаў, «За лепшы выраб бытавога, утылітарна-дэкаратыўнага прызначэння з лазы» — Аляксандр Кацура з Валожынскага раёна, «За хуткасць і якасць пляцення з лазы» — Уладзімір Фаменка з Вілейкі.

— Сёння мы правялі свята, а заўтра трэба думаць, як развіваць лозапляценне далей, як яго захаваць, — зазначыў лаўрэат II абласнога свята-конкурсу «Лазовыя карункі» Сяргей Трыдзенскі. — У Вілейку з'ехаліся ўнікальныя майстры, у кожнага — свой почырк. Іх досвед неабходна больш дасканала вывучаць, каб перадаць наступнаму пакаленню творцаў.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

# З вышыні Каўказскіх гор



Пра творчасць вядомага кабардзінскага літаратара Хасана Тхазёплава кажуць, што яна «яднае ў сабе культурную спадчыну Усходу і Захаду са спецыфікай нацыянальнага светапогляду». Яго паэтычнае слова пераадольвае ўласныя межы, адлюстроўвае ўзаемасувязь жыцця і смерці, кахання і здрады. У гэтым усеахопнасць і пазачаснасць твораў аўтара. Пачатак усяму — яго бязмежная любоў да свайго народа, паважлівае стаўленне да ўнікальнай культуры і багатых традыцый Каўказа. І разам з тым ён інтэрнацыяналіст у самым шырокім сэнсе гэтага слова. Хасан Тхазёплаў — галоўны рэдактар часопіса «Літаратурная Кабардзіна-Балкарыя», вучоны сакратар Акадэміі Адыгскай (Чаркескай) Міжнароднай Акадэміі навук, заслужаны дзеяч культуры Расійскай Федэрацыі, аўтар больш як 30 кніг паэзіі.

**— Кожнага чалавека карані звязваюць з роднай зямлёй. Ці паўплывала гэта на вашы жыццёвыя прыярытэты?**

— У нашай сям'і было адзінаццаць дзяцей. Бацькі нам заўсёды гаварылі: «Калі можаш рабіць дабро — рабі. Калі не можаш, не рабі людзям ліха». Гэтай запаведзі я прытрымліваюся ўсё жыццё, будучы абсалютна пераканаными ў тым, што добрых людзей у свеце значна больш. У нас, дзяцей, старэйшыя заўсёды мелі бясспрэчны аўтарытэт, але прыклад бацькі быў вышэй за ўсё. Ён дапамог вызначыцца з сапраўднымі жыццёвымі каштоўнасцямі.

Мой бацька, Місед Камботавіч Тхазёплаў, нарадзіўся ў 1898 годзе ў Кабардзе. Перад вайной кіраваў калгасам. У 1942 годзе немцы ўварваліся ў сяленне Стары Чарэк, дзе жыла наша сям'я. У гэтыя цяжкія дні бацька прыняў адзіна правільнае рашэнне: далучыцца да партызанаў Кабардзіна-Балкарыі. Разам з іншымі змагарамі браў актыўны ўдзел у партызанскім руху, за што быў адзначаны медалямі «За баявыя заслугі», «Партызану Айчыннай вайны», «За абарону Каўказа», меў іншыя ўзнагароды.

Падтрымліваючы пачын такога ж, як і сам, старшыні, 7 сакавіка 1944 года ў звароце да Вярхоўнага Галоўнакамандуючага бацька пісаў: «Я, партызан Вялікай Айчыннай вайны, старшыня калгаса імя Варашылава Урванскага раёна Кабардзіна-Балкарскай АССР, Тхазёплаў Місед Камботавіч, жадаю дапамагчы доблеснай Чырвонай Арміі ў канчатковым разгроме германскага фашызму, уношу асабістыя зберажэнні ў суме 30 тысяч рублёў на будаўніцтва танкавай калоны «Смерць фашысцкім захопнікам!». Слава гераічнай Чырвонай Арміі, якая абараняе гонар і незалежнасць Савецкай Радзімы!» За гэты ўчынак бацька атрымаў ад Сталіна пахвальны ліст.

На сходзе, які адбыўся ў кастрычніку 1944 года, калгаснікі на чале з бацькам прынялі рашэнне здаць у фонд Чырвонай Арміі звыш плана 330 пудоў хлеба, 24 пуды мяса. Гэтую ініцыятыву падтрымалі і ў іншых гаспадарках. Узятыя абавязацельствы выканалі паспяхова.

Як толькі пачалося вызваленне Каўказа, бацька заняўся аднаўленнем разбуранай грамадскай гаспадаркі. За кароткі час калгас дасягнуў перадваеннага ўзроўню вытворчасці прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі. У сям'і бацьку бачылі мала, бо ўвесь час ён праводзіў на палях, фермах. Але мы ведалі, што больш справядлівага і сумленнага чалавека, няма.

**— Тэма высокай маралі збліжае нашы літаратурныя здабыткі. У савецкі час яднанне літаратур вялося больш грунтоўна і стала нашай агульнай культурнай спадчынай. Якія прыклады творчага ўзаемапранікнення вы маглі б прывесці?**

— Вялікая паэтычная кніга слыннага беларускага песняра Янкі Купалы была перакладзена і выдадзена ў Кабардзіна-Балкарыі да 80-годдзя з дня яго нараджэння. Гэты юбілей можна без перабольшвання назваць святам народнай паэзіі ўсяго Савецкага Саюза. «Адзін з пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры ўпісаў сваё імя не толькі ў гісторыю роднай культуры, а і ў гісторыю савецкай шматнацыянальнай паэзіі» — так ацэньвалі ў тыя гады ў нашай прэсе ролю беларускага класіка.

Шасцідзесяцігадовы юбілей яшчэ аднаго айчыннага беларускага паэта, Аркадзя Куляшова, шырока адзначаўся ў нашай рэспубліцы. Знамянальным стаў пераклад Аркадзем Куляшовым зборніка вершаў балкарца Кайсына Кулiева «Кніга зямлі». Былі і іншыя ўзаемапераклады. Творчасць Аркадзя Куляшова напоўнена мудрасцю, святлом, прымушае чытача думаць, суперажываць, мацуе яго стойкасць у цяжкую гадзіну. Такая паэзія сугучная ідэалам каўказскіх народаў.

Таксама ў нашай агульнай скарбонцы перакладзены беларускім пісьменнікам Леанідам Салаўём раман кабардзінскага аўтара Аліма Кешокава «Зламаная падкова», які ў 1981 годзе выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў Мінску.

**— Хацелася б больш даведацца пра сучасныя тэндэнцыі развіцця літаратуры на Каўказе.**

— Літаратуры народаў Паўночнага Каўказа заўсёды складалі важнейшую частку агульнарасійскага літаратурнага працэсу. Праз мову, адукацыю, культуру ўхваляліся нашы дасягненні. Цяпер ёсць асаблівая патрэба ва ўмацаванні сувязей паміж нацыянальнымі літаратурамі Расіі і іншых краін. Пасля распаду Савецкага Саюза гэтыя стасункі парушыліся, многія народы аказаліся ў ізаляцыі, па-за геакультурнай прасторай. Нашы пісьменнікі, глыбінна адчуваючы подых часу, шукаюць шляхі да збліжэння і яднання, што ў кантэксце з агульнапалітычнай сітуацыяй адпавядае патрабаванням сучаснасці.

Да таго ж, сёння ўсё больш востра стаіць пытанне: быць або не быць культуры народаў Каўказа? Ці здолеем зберагчы нашу спадчыну, якая не мае аналагаў у свеце па сваёй шматколернасці, шматнацыянальнасці і адначасова па адзінстве? Усё залежыць ад таго, як зможам захаваць само паняцце «культура народаў Каўказа».

Вялікія спадзяванні ўскладаем на 2014 год. Будзем вельмі рады, калі наш голас пачуюць і ў Беларусі, а на Паўночным Каўказе шырэй распаўсюдзіцца аўтарытэтнае міратворчае слова беларускіх аўтараў.

**— Чым яшчэ жыве творчая грамадскасць Саюза пісьменнікаў Кабардзіна-Балкарыі? Вядома, што ў яго склад уваходзіць больш як сотня літаратараў.**

— Сіла мастацкага слова — прыцягальная, глыбінная крыніца роднай мовы — невычарпальная, таму мы ў няспынным руху і стваральным пошуку. Безумоўна, цяперашні Саюз не параўнаць з тым, што быў у савецкі час. Але радуе, што моладзь з ахвотай бярэцца за пяро. Сведчаннем таму — бурлівая плынь літаратурных аб'яднанняў, якіх у апошні час з'явілася шмат у гарадах і раёнах рэспублікі. Масцітыя творцы, перадаючы жыццёвы і пісьменніцкі досвед, дапамагаюць моладзі спрабаваць свае сілы ў літаратурных пошуках.

Вось як, напрыклад, расквітнела талентамі літаратурная студыя «Эдэльвейс». Ля вытокаў яе стварэння ў 2005 годзе ў Нарткале стаяў Аляксандр Клочынаў, паэт, выпускнік Маскоўскага літаратурнага інстытута, знаўца рускай і сусветнай літаратуры. Яго вершы друкаваліся ў часопісах «Смена», «Юность», «Сельская молодёжь». У 80-я гады мінулага стагоддзя Клочынаў жыў ва Уладзікаўказе (у той час — г. Арджанікідзэ — **ад рэд.**), дзе, кіруючы работай літаб'яднанняў «Шуадон» і «Крыніца», набываў досвед сталага літаратара. Па прыездзе ў Нарткалу ён хутка заваяваў любоў і аўтарытэт сярод творчай моладзі. Пад яго кіраўніцтвам утварыўся творчы асяродак аб'яднання, быў зацверджаны склад грамадскага савета альманаха «Паэтычны веснік», атрымана ліцэнзія на новы друкаваны орган.

Літаратурная майстэрня стала крыніцай натхнення для многіх пачынаючых аўтараў, сярод якіх ёсць імёны Уладзіміра Кудаева, Надзеі Сонцавай, Анастасіі Пашко, Мусарбі Куштава, Рымы Сакуравай, што сталі папулярнымі.

Пры рэдакцыі нашага часопіса «Літаратурная Кабардзіна-Балкарыя» таксама працавала студыя з 30 маладых літаратараў. За кошт рэдакцыі было выдадзена восем кніг малазабяспечаных аўтараў і агульных зборнікаў вершаў нашых студыйцаў. Цяпер работа студыі аднаўляецца.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Буйнае жыта, цёплае лета

**На працягу многіх стагоддзяў вёска Пагост Жыткавіцкага раёна з'яўлялася цэнтрам актыўнага бытавання народных свят. Падтрымліваюць векавечны культурны «парадак» яе жыхаркі, сярод якіх і ўдзельніцы народнага фальклорна-этнаграфічнага гурта «Міжрэчча» Пагосцкага сельскага клуба.**

Гэты гурт быў створаны ў 1982 годзе па ініцыятыве былой загадчыцы клуба Кацярыны Панчэня. Усе жанчыны — Марыя Лунцэвіч, Аляксандра Зохна, Галіна Літвінка, Алена Кулік, Юлія Панчэня, Надзея Астаповіч, Зося Кузьміч, Наталля Марозава — выдатныя знаўцы мясцовага фальклору, распарадчыцы каляндарна-земляробчых ды сямейна-бытавых свят і абрадаў, сярод якіх і «Тураўскі карагод».

Разам са старэйшымі актыўны ўдзел у свяце бярэ моладзь — Зміцер Марозаў, Таццяна Кужэльная, Карына Пігун. Як заўжды, удзельнічаў у свяце і старшыня Азяранскага сельсавета Міхаіл Аліфіравец.

У старажытнасці на Юр'е на Тураўшчыне вадзілі быка, «ролю» якога сёння выконвае пышны хлеб: як і сам абрад, ён называецца «карагод». Яго пякуць з раніцы і ўпрыгожваюць трыма галінкамі пладовага дрэва. На кожнай павінна быць тры парасткі з кветкамі — усяго дзевяць, як сімвал плоднасці зямлі.

Шэсце праходзіць праз сімвалічныя «вароты» з ручнікоў. З прыпеўкамі накіроўваецца да Панскага поля за вёску, каб «праславіць Юр'е» і папрасіць у Бога блаславення «на буйнае жыта, на цёплае лета». Там пагашчанцы змагаюць і прыпыняюцца з краю поля. Потым праз «вароты» з ручнікоў ідуць на поле. Тут адбываецца самы ўрачысты момант галоўнага карагода, які пачынаецца з абрадавай песні «Ой, прыйшлі на поле, дай папросім Бога адмукнуць зямліцу…». Жанчыны ўтвараюць круг і пачынаюць па сонцы вадзіць карагод, пры гэтым спяваюць «Дай у рай, маці, ключы…». Пасля абраду народны карагод ідзе па вёсцы. Спыняючыся ля кожнай хаты, удзельнікі звяртаюцца да гаспадароў па дазвол вадзіць карагод.

Абрад — адметная для палескага рэгіёна традыцыя. У яго складзе не толькі выдатныя ўзоры старажытных карагодаў і песень, але і такія матэрыяльныя праявы рэгіянальнай культуры, як народны касцюм і абрадавы хлеб — каравай. «Тураўскі карагод» першы ў Беларусі ў 2005 г. атрымаў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці.

**Людміла МЕЛЬНІКАВА**



*Міхаіл Аліфіравец дэманструе ўпрыгожаны карагод у хаце Галіны Літвінка.*

# Ноч таямніц і авантур

Акцыя «Ноч музеяў», якую ўпершыню прыдумалі ў Берліне ў 1997 годзе, сёння папулярная ва ўсім свеце. Штогод яна адбываецца ў Міжнародны дзень музеяў — 18 мая. У гэтую ноч, ахутаную арэолам рамантыкі і таямніцы, установы культуры не зачыняюць дзверы. Беларускія музеі прадставілі паўночным гасцям незабыўную праграму.



Фота Пятра Шчытнікава

*Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы Алена Ляшковіч падчас адкрыцця «Ночы музеяў-2014».*

Дырэктар **Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі** Уладзімір Пракапцоў сустракаў шматлікіх наведвальнікаў у вобразе магістра часу і запрашаў у падарожжа па лабірынце эпох. Прастору над парадный лесвіцай у фае заняла «жывая» карціна Васіля Сумарава «Мой дом». На «ажыўленне» ўсіх персанажаў гэтай анімацыйнай інсталяцыі ў аўтара Наталлі Жалязновай пайшло тры тыдні. Сучасныя тэхналогіі дазволілі публіцы ў літаральным сэнсе дакрануцца да спадчыны вядомага мастака Парыжскай школы, выхадца з Беларусі Хаіма Суціна. У межах праекта «Ноч музеяў-2014» творчая майстэрня Алега Усава «Джокерс» прадставіла першую ў Мінску выстаўку жывых скульптур, кулінарнае шоу «Сакрэты беларускай кухні» правяла Алена Мікульчык. Забаўлялі публіку, якая да пяці раніцы блукала па «Лабірынтах часу», Чашырскі кот, Трус ды іншыя казачныя персанажы.

**Нацыянальны гістарычны музей Беларусі** прадставіў палікультурны праект «Музей свядомасці». Прафесійныя мастакі, музыкі, рэжысёры, акцёры, студэнты творчых ВНУ і валанцёры стварылі непаўторную атмасферу свята: тэатралізаваныя пастаноўкі, музычная праграма і шоу мыльных бурбалак для самых маленькіх. Наведвальнікаў чакалі ўнікальныя выстаўкі «Алімпійская Беларусь» і «Галаграфія-2014. Мінск». Кульмінацыяй вечара сталі паказы fashion-калекцый і ўнікальнае шоу «Залатога рэжысёра». Акцыя завяршылася апоўначы феерычным музычна-светлавым прадстаўленнем.

**У музеі гісторыі горада Мінска** панавала атмасфера савецкага часу: у залах размясціліся экспазіцыя «Back in BSSR / Зноў у БССР», знаёмая многім не толькі па кіно і літаратуры. Бытавая тэхніка ў стылі 1950-х: халадзільнік, электрадухоўка, газавая пліта, калекцыя эмаліраванага і алюмініевага посуду, самавары, авоські і сеткі, тазы, прасы і швейныя машынкі — усё на сваіх месцах. Разам з выкладчыкамі і студэнтамі Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў музей арганізаваў для наведвальнікаў выстаўку чайнікаў. Экспазіцыю склала некалькі дзясяткаў разнастайнага «дзюбатага» посуду. Гэта і чайнікі, якімі мы карыстаемся штодня, і аўтарскія работы выкладчыкаў і студэнтаў каледжа мастацтваў. Для гасцей арганізавалі частаванне ў музейным дворыку, гульню-варажбу на чаінках, а таксама выступленне танцораў ліндзі-хопа, якія называюць візуалізацыяй джаза.

**Мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага** сустрэла наведвальнікаў праграмай «Святло і колер». Сумесна з Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў галерэя правяла баль. Майстар-клас, арганізаваны прафесійнымі харэографамі, дазволіў гасцям музейнай ночы станцаваць вальс, паланэз, менуэт, французскую кадрылю. Наведвальнікаў таксама навучылі гуляць у бальныя гульні: ручаёк, фанты, бурымэ, кветкавую пошту. Акрамя таго, адбыўся канцэрт беларускіх музыкаў: *Clover club, Electric Minds, Sun road21, Zui*. Працавала выстаўка жывапісу Аляксандра Ісачова і Алега Арлова — мастакоў, чые палотны напоўнены магіяй колеру і святла мастацтва. Заключным акордам ночы стаў розыгрыш суперпрыза — «Спатканне на даху».

**Гарадская мастацкая галерэя Л. Шчамялёва** ў музейную ноч стварала цуды. Прафесійныя педагогі і арт-куратары дапамаглі наведвальнікам пераўвасобіцца ў мастакоў, а пры жаданні і выставіць сваю працу ў галерэі.

**Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры** ператварыўся ў спартыўную пляцоўку і сустрэў гасцей праграмай «Музыка і спорт»: выкананне савецкіх спартыўных песень, прагляд савецкіх анімацыйных фільмаў на спартыўную тэматыку, тэатралізаваны перформанс па матывах беларускіх народных легенд і паданняў. Спартыўную тэматыку падтрымаў у гэтым годзе і **Мемарыяльны музей-майстэрня імя З. Азгура** з праграмай «Белая ноч, або Ноч у тэхніцы бурымэ». Дзейства разгарнулася на крытым катку хакейнага клуба «Юнацтва-Мінск»: адбылася прэм'ера хакейнай оперы-буф «0:1» сучаснага беларускага кампазітара Вольгі Падгайскай. На лёд выйшлі музыканты сімфанічнага аркестра музычнай капэлы «Санорус», артысты хору і салісты. Музычна-хакейныя баталіі паядналі мастацтва і спорт. Выканаўцам галоўных роляў прыйшлося куды больш складана, чым героям тэлевізійных лядовых шоу: яны не толькі каталіся на каньках, але і спявалі.

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча** запрасіў у Траецкае прадмесце, дзе для гасцей арганізавалі «Вясновы карагод» шатландскіх рытмаў і беларускай рыфмы: кірмаш hand-made, выступленне гуртоў *Ejrut* і *Hardwood*, майстар-класы па кельцкіх танцах і светлавое шоу.

**У музеі МУС** госці пад гукі міліцэйскага аркестра змаглі не толькі азнаёміцца з экспазіцыяй, але і сфатаграфавацца з рэтра-аўтамабілямі, усталяванымі на адкрытай пляцоўцы каля музея, а таксама з унікальнымі экзэмплярамі агнястрэльнай зброі. Наведвальнікі ўбачылі калекцыю ўзнагарод сілавых ведамстваў і праваслаўнай царквы — прадукцыю ўнітарнага прадпрыемства дызайн-студыі «Сэнс».

**Музей гісторыі беларускага кіно** прадставіў эксклюзіўны праект «Танцавальны майстар-клас ад пана Быкоўскага». Для наведвальнікаў выступіў фальклорны гурт *Guda*, была паказана «Паўлінка». Пасля прагляду фільма, падчас майстар-класа, гледачы змаглі навучыцца беларускім танцам.

Абласныя і раённыя музеі Беларусі таксама прадставілі вялікую і цікавую праграму «Ноч музеяў-2014». **Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей** запрасіў на «ноч інтрыг і авантур». Наведвальнікам прапанавалі пагуляць у арыгінальныя настольныя гульні разам з клубам «Кубік». Ва ўнутраным дворыку Новага замка адбылося выступленне клуба сярэднявечнай культуры «Дружына Патрыка». Уласны лялечны тэатр «Музейная батлейка» паказаў гледачам прадстаўленне, заснаванае на гістарычным матэрыяле. Тут можна было паглядзець музычны дывертысмент «Вясёлкавыя прыгоды італьянца Д. К.», здзейсніць падарожжа па экспазіцыях. Сваю творчасць прадэманстравалі нядаўна створаны музейны тэатр «Гістарычны экзэрсіс», група сучаснай харэаграфіі «ТАД», танцавальная кампанія «Пачатак», гродзенскія музыкі, спевакі ды аніматары.

У філіялах **Віцебскага абласнога краязнаўчага музея** міжнародная музейная акцыя прайшла пад дэвізам «Музейныя калекцыі аб'ядноўваюць». **У музеі-сядзібе Ільі Рэпіна «Здраўнёва»** адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя 170-годдзю з дня нараджэння вядомага мастака, адкрылася выстаўка жывапісу Марыны Эльяшэвіч, прайшла тэатралізацыя «Ажыўшыя карціны Рэпіна». Праграму склалі шматлікія майстар-класы, карагоды, народныя гульні і песні, спаборніцтвы па кракеце, дартсе, шахматах, шашках.

**Музей-запаведнік «Нясвіж»** запрасіў на ўнікальнае прадстаўленне: займальнае падарожжа па старонках гісторыі Нясвіжа, Ратушы, Палацавага ансамбля, харэаграфічныя і музычныя падарункі ад ансамбляў «Харошкі» і «Кантабіле», сярэднявечная дыскатэка ад ансамбля «Яварына», фаер-шоу.

У праграме **музея гісторыі Магілёва**, прысвечанай Міжнароднаму дню музеяў, — інтэрактыўныя гульні і тэатралізаваныя паказы. Госці ратушы змаглі наведаць музычны салон і сфатаграфавацца з салдатамі Першай сусветнай вайны. У **Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі імя Е. Раманава і музеі этнаграфіі** наведвальнікаў чакалі інтэрактыўныя экскурсіі з вікторынамі і конкурсамі, песнямі і тэатралізаванымі пастаноўкамі. У краязнаўчым працавала выстаўка вырабаў Добрушскага фарфоравага завода, праходзілі майстар-класы па роспісе фарфору і вырабе гліняных свістулек.

**Брэсцкі абласны краязнаўчы музей** пачаў сваю «Ноч музеяў» з праграмай «Партрэт у гісторыі», а ў знакамітай «Камянецкай вежы» адбылася «Сярэднявечная вечарына».

**Гомельскі палацава-паркавы ансамбль** у «Ноч музеяў» прапанаваў здзейсніць ART ВАЯЖ «Музеі свету ў Гомельскім палацы». Наведвальнікі змаглі прайсціся па алеях парку і адчуць сябе ў Францыі, Італіі, Англіі, Амерыцы і г. д. Гасцей чакалі французская кавярня ў праванскім стылі, італьянскі панадворак, куток Англіі з яго знакамітымі персанажамі, амерыканскі джаз, танцы народаў свету, а таксама мора прыемных уражанняў.

**Таццяна ШЫМУК**



Фота БелТА

*Акцыя «Ноч музеяў-2014. Лабірынты часу» ў Нацыянальным мастацкім музеі.*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2505.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 22.05.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1978.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686